ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

27 сакавіка 1998 г. № 13/3941 Кошт 4 000 руб.



# *Сёння — Міжнародны дзень тэатра*



Свята гэтае не толькі чыста прафесійнае — артыстаў, тэатральных работнікаў, тэатразнаўцаў, але гэта і свята кожнага чалавека, які хоць раз у сваім жыцці быў у тэатры.

Аляксандр ТКАЧОНАК *(здымак Артура ПРУПАСА)* — артыст Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя М. Горкага — сустракае Міжнародны дзень тэатра з добрым настроем. Ёсць у яго для гэтага і асаблівая падстава — яму нядаўна нададзена высокае званне народнага артыста Рэспублікі Беларусь.

## ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Нягледзячы на велізарны патэнцыял цывілізацыі і ўсемагутнасць чалавечых розуму і глупства, магчымасці асобна ўзятага прадстаўніка людскога роду ў спрэчцы з Богам і Лёсам моцна абмежаваныя. Не ўсё, дзякуй Богу, ад чалавека (прынамсі, асобнага чалавека) залежыць. Нават калі ён мае ў падначаленні войска, якому можна загадаць перайсці "з такога-та чысла такога-та месяца" на летнюю форму адзення, хоць вакол ляжыць снег, альбо апрануць вушанкі ў летнюю спякоту. З прыродай так не атрымаецца. Яе не прымусіш змяніць натуральныя колеры на тыя, якія адпавядаюць выключна ўласнаму густу.***

***Сацыяльная стыхія шмат у чым нагадвае стыхію прыродную. Здаецца, павярнула на вясну. Здаецца, людзям надакучыла зіма...***

### УЗНАГАРОДА ТЫДНЯ



Высока ацэнены заслугі перад айчынным музычным мастацтвам Аляксандра Анісімава — галоўнага дырыжора аркестра творчага аб'яднання "Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы і балета Беларусі". Указам прэзідэнта краіны ён узнагароджаны медалём Францішка Скарыны.

### КАНЦЭРТ ТЫДНЯ

У асяроддзі вайсковым гэтыя людзі вылучаюцца: музыкі, артысты! Нядаўна ў іх, удзельнікаў Ансамбля песні і танца Узброеных Сіл Беларусі, быў канцэрт на сцэне сталічнага Дома афіцэраў. Не шараговы канцэрт: з нагоды 60-годдзя калектыву. Пасля юбілейных урачыстасцяў удзельнікі вайсковага ансамбля вылучаюцца ўжо не толькі сярод іншых людзей у форме з пагонамі, а і сярод многіх сваіх цывільных калег: калектыў ганараваны высокім званнем "акадэмічны".

### ВЫСТАВА ТЫДНЯ

Сёлета суполку "Пагоня" пазбавілі магчымасці зрабіць выставу да Дня Волі ў Палацы мастацтваў. Сябрам суполкі было прапанавана перанесці выставу на... лета. І то, калі ў календары выстаў, зацверджаным радай Саюза мастакоў, знойдзецца "фортка". Інакш кажучы, ніякай канкрэтыкі, але сэнс і так зразумелы: кіраўніцтва Саюза мастакоў не хоча мець клопатаў і галаўнога болю. Адбылося па прынцыпе "няма выставы — няма праблемы". Але выстава ўсё ж такі адкрылася. У Мінску (Дольная зала Чырвонага касцёла і штаб-кватэра БНФ), Маладзечне, Гародні, Пінску, Брусэлі (офіс "Хартыі-97"). Зразумела, шэсць малых выстаў — гэта не тое, што адна вялікая. Ды ўсё ж у культурнай гісторыі будзе занатавана, што ў 1998 годзе, нягледзячы на перашкоды, суполка "Пагоня" зрабіла выставу да Дня Волі. Зрэшты, прыемна, што ў Беларусі свет не сыходзіцца клінам у Мінску. Ёсць культура і па-за сталіцай.

### ЗАМЕНА ТЫДНЯ

Замест "Пагоні" ў Палацы мастацтваў выстава "Зямля Палесся". На ёй экспануюцца творы мастакоў Гомельшчыны. Паколькі для Гомельскай філіі Саюза мастакоў прапанова выставіцца ў апошні тыдзень сакавіка ў Мінску была нечаканай, твораў для вялікай экспазіцыі ў майстэрнях мастакоў не набралася. Таму экспазіцыя "ўзмоцнена" творамі, што захоўваюцца ў фондах Нацыянальнага мастацкага музея і маюць хоць ускоснае дачыненне да Палесся.

### СМУТАК ТЫДНЯ

21 сакавіка памерла вялікая балерына Галіна Уланава. Гэта страта для Расіі, для народаў, што нядаўна лічыліся "савецкімі", для ўсяго свету. Геніі нараджаюцца рэдка і належаць усяму чалавецтву.

### НАМЕР ТЫДНЯ

Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій II мае намер наведаць Беларусь у пачатку лета. Ён прыме ўдзел у святкаванні 825-годдзя з дня заканчэння зямнога жыцця святой Еўфрасінні Полацкай. Урачыстасці пройдуць найперш у Полацку. Безумоўна, наведае патрыярх і храм трох рэлігій (праваслаўя, уніі і каталіцтва) — Сафію Полацкую.

### СУСТРЭЧА ТЫДНЯ

20 і 21 сакавіка Польскі Інстытут у Мінску наладзіў сустрэчы архітэктара Кшыштафа Кліхе са студэнтамі і выкладчыкамі Політэхнічнай акадэміі і Акадэміі мастацтваў. Тэма сустрэчы — "Новыя праекты ў Старым Кракаве": як не парушыць гістарычнае аблічча гарадоў новымі архітэктурнымі аб'ектамі. У гэтым сэнсе нам ёсць чаму павучацца ў заходніх суседзяў.

ФЕСТЫВАЛІ

# Прызы размеркаваліся па выканаўцах

У тры мітуслівыя дні ўклаўся фестываль "Маладзечанская сакавіца". З 20 па 22 сакавіка журы высвятляла імёны прызёраў. За паспяховы дэбют у драматургіі быў адзначаны Сяргей Кандрашоў, аўтар п'есы "Містэр Розыгрыш" (дарэчы, пастаноўшчык спектакля Венедыкт Растрыжэнкаў таксама адзначаны прызам). Лепшую мужчынскую ролю выканаў Генадзь Гарбук (Парфён у спектаклі "Парфён і Аляксандра" М. Манохіна. Рэжысёр-пастаноўшчык Валерый Раеўскі таксама адзначаны прызам). За вялікі ўнёсак у мастацтва тэатральная грамада "Маладзечанскай сакавіцы" шчыра ганаравала мастака Барыса Герлавана...

Такім чынам, тры галоўныя ўзнагароды разышліся па двух тэатрах: Тэатры-лабараторыі Нацыянальнай драматургіі, дзе адбыўся дэбют драматурга Кандрашова, і Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы, на чыіх сцэнах, вялікай і малой, шчыруюць Гарбук ды Герлаван.



Упадабаныя журы акцёрскія работы ўвасобіліся ў прызы для Веры Кавалеравай, Вольгі Клебановіч, Алены Гудковай, Юліі Міхневіч, Людмілы Румянцавай, Мікалая Рабычына, Яўгена Іўковіча, Андрэя Троіцкага, Уладзіміра Шэлестава. Рэжысёр Аляксандр Яфрэмаў ушанаваны за спектакль "Таленты і прыхільнікі" (Мінскі тэатр-студыя кінаакцёра).

**Ж. Л.**

*На здымку: Генадзь ГАРБУК (Парфён) у спектаклі "Парфён і Аляксандра".*

*Фота Артура ПРУПАСА*

КОНКУРСЫ

# Лаўрэаты нараджаюцца ў Гомелі

"Музыка надзеі" — афішы з гэтымі словамі запрашаюць у Гомель, у каледж мастацтваў імя Н. Сакалоўскага. Тут зноў — асяродак незвычайнай творчай імпрэзы. Другога ўжо Міжнароднага конкурсу выканаўцаў, у якім удзельнічаюць прадстаўнікі Беларусі, Малдовы, Расіі, Украіны. Спаборнічаюць струннікі, духавікі, ударнікі...

Аднак, як паведаміў "ЛіМу" дырэктар конкурсу, ён жа — дырэктар каледжа Эдуард Кірыленка, у Гомелі з 22 па 29 сакавіка ладзяцца не толькі конкурсныя праслухоўванні. Абвешчаны канцэрты з удзелам лаўрэатаў І Міжнароднага конкурсу "Музыка надзеі", духавога ды камернага аркестраў каледжа, Актэта драўляных духавых інструментаў Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Барыса Нічкова. Учора прайшла навукова-практычная канферэнцыя на тэму: "Перспектывы развіцця выканальніцкага мастацтва на струнных смыковых, духавых і ўдарных інструментах у Рэспубліцы Беларусь". Запланаваны майстаркласы вядучых беларускіх і замежных спецыялістаў, якія прыехалі ў Гомель на гэтыя дні.

Узнагароджанне новых лаўрэатаў адбудзецца 29 сакавіка, падчас урачыстага закрыцця конкурсу.

**С. Б.**

АДГАЛОСКІ

# Свята, якое пакідае надзею...

25 сакавіка беларусы адзначалі 80-годдзе ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Святочныя мерапрыемствы ладзіліся не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі. Вільня, Нью-Йорк, Варшава — вось толькі некалькі гарадоў, дзе гэтымі днямі ўспаміналі БНР.

У Мінску прайшлі шэсце і мітынг прыхільнікаў незалежнасці. Пасля апазіцыйных акцыяў 96 года названыя мерапрыемствы былі, бадай, самымі шматлюднымі і сабралі каля 10 тысяч чалавек. Галоўны лозунг — "БНР — наша будучыня ў XXI стагоддзі". Нагадаем, што за некалькі тыдняў да святаў Беларускі народны фронт выступіў з ініцыятывай прыняцця пасведчання грамадзянства БНР. Ужо гучаць крытычныя заўвагі на гэты конт, але як бы тое ні было, жадаючыя атрымаць сімвалічнае грамадзянства ёсць, а некаторыя нават ужо здолелі гэта зрабіць. Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла даслала з-за акіяна віншаванне з нагоды 80-годдзя БНР, якое і было зачытана на мітынгу. Даслаў сваё прывітанне і Зянон Пазняк...

На гэты раз амаль не ўзнікала праблем з гукаўзмацняльнай апаратурай, і прамоўцы не шкадавалі "цёплых" слоў у адрас кіраўніцтва РБ, кляліся ў вернасці ідэалам 25 сакавіка. Адзін з франтаўскіх актывістаў паведаміў прысутным пра спробу апазіцыянераў атрымаць некалькі хвілін у тэлеэфіры для віншавання грамадства з юбілейнай датай, аднак на лісце-заяўцы атрымалі рэзалюцыю "У архіў!" Гэта, на думку прамоўцы, сімвалічна. Але дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што БТ гэтым разам вырашыла адмовіцца ад сваёй "кліпавай" манеры адлюстравання падзей і паказала рэпартаж, зусім непадобны на ранейшыя. Мантаж сюжэта дазволіў гледачу зрабіць правільны вывад пра колькасць удзельнікаў акцыі, хоць "нажніцы" прыпынялі прамоўцаў, якія ўсё ж паспявалі сказаць пяць-шэсць слоў у эфір. Такім чынам нацыянальны тэлеканал усё ж паўдзельнічаў у свяце беларускай незалежнасці...

Праваахоўцы ніякіх хуліганстваў не дачакаліся.

Загад тым, чыя "служба и опасна и трудна", прагучаў пад самы канец, калі ўдзельнікі апазіцыйных мерапрыемстваў разыходзіліся па дамах. Менавіта тады група маладых людзей спрабавала прайсці на праспект, дзе і была сустрэта АМАПам. Разгон радыкальна настроенай моладзі адбыўся хутка, сярод 50 затрыманых былі журналісты. Ім патлумачылі, якой формы павінны быць пячаткі ў рэдакцыйных пасведчаннях, і адпусцілі. Вызвалілі таксама назіральнікаў Беларускага Хельсінкскага камітэта. У астатніх з гэтай групы не было магчымасці запаліць увечары 25 сакавіка свечкі ў памяць змагароў за незалежнасць. Гэта зрабілі іншыя.

**Вадзім ДОЎНАР**

*Фота В. ТАЛОЧКІ, БЕЛТА*



АНКЕТА

# Што з'езд чарговы нам рыхтуе?

***Кожны з'езд у жыцці пісьменніцкай арганізацыі быў падзеяй — калі не па выніках, то па важнасці ўзнятых пытанняў альбо па спадзяваннях, якія на яго ўскладаліся. Думаецца, той, што адбудзецца ў красавіку, — не выключэнне.***

***Не сакрэт: да чарговага "форуму" мы прыйшлі не з лепшымі вынікамі. Страчана законна набытая маёмасць, запанавалі разгубленасць і скепсіс, разладзіліся і без таго нядружныя шэрагі. Не адчуваецца падрыхтоўкі да з'езда і ў кіраўнічых структурах саюза. У такіх умовах каму як не літаратурнай газеце распачаць перадз'ездаўскую гаворку, каб пачуць думку пісьменніцкай грамады?***

***Вось пытанні, на якія мы прапануем адказаць:***

***1. Якой вам уяўляецца бліжэйшая будучыня Саюза пісьменнікаў і што для яе павінен зрабіць з'езд?***

***2. З якімі асобамі (альбо генерацыяй) звязваеце вы магчымае абнаўленне дзейнасці пісьменніцкай суполкі?***

### Лідзія АРАБЕЙ

**1.** Сумнай. Саюз — гэта не толькі некалькі сакратароў ды рада, якія часам яшчэ засядаюць; саюз — гэта ўсе члены арганізацыі. Дык вось, апошнім часам гэтага саюза зусім не існавала, ва ўсякім разе звычайныя члены зусім не адчувалі яго прысутнасці. Вінаватыя ў гэтым не толькі нейкія там абставіны, вінавата і наша кіраўніцтва. Яно не змагло аб'яднаць нас пэўнаю ідэяю, не змагло арганізаваць на барацьбу за наша існаванне.

Кажуць, рыса беларусаў — талерантнасць. Але дакуль, да чаго яна можа давесці, тая талерантнасць? Нас пазбаўляюць мовы, адбіраюць чытача, адабралі будынак саюза — Дом літаратара. І мы дазволілі ўсё гэта адабраць. Аддаць — не цяжка, забраць назад — вельмі складана. Наколькі мне вядома, наша кіраўніцтва нічога не здолела зрабіць для таго, каб адстаяць наша правы. Дык пра якую будучыню саюза можна марыць? І што можа зрабіць з'езд? Пагавораць, пагавораць, патрасуць паветра, на тым і скончыцца. А шмат каму наша пагібель, можа, і ў радасць.

**2.** Нешта зрабіць могуць толькі ўрад і Прэзідэнт. Калі павернуцца тварам да пісьменніка, калі зразумеюць, што, ставячыся так пагардліва да нацыянальнай інтэлігенцыі, яны сякуць сук, на якім сядзяць. Бо нацыя ўспрымаецца праз мову, праз літаратуру, праз мастацтва. Няма мовы, няма культуры, няма і нацыі, няма дзяржавы. А няма дзяржавы, то непатрэбны і яе структуры.

### Генрых ДАЛІДОВІЧ

**1.** Прызнаемся шчыра: голас пісьменніцкай суполкі слаба чуцен. У чымсьці вінаваты сакратарыят, у чымсьці рада і яе прэзідыум, у чымсьці ўсе мы разам.

Але гэтае "ў чымсьці" існуе не проста так, яно — пэўны вынік. Найперш вынік не зусім правільнай нацыянальна-культурнай дзяржаўнай палітыкі: непрыязна-фальсіфікацыйныя адносіны да нашай гісторыі, ціхае выцісканне адусюль беларускай мовы, публічнае зневажанне з высокіх трыбун і ў некаторых СМІ свядомых людзей, выдатных дзеячаў нацыянальнай культуры. У многіх выпадках стаўка робіцца на "верных" — тых, хто "любіць Беларусь", але на самай справе ненавідзіць, топча ўсё беларускае, а калі і карыстаецца беларускім словам, дык толькі для пракармлення альбо каб дасціпней ушпільнуць.

Усе мы не можам не задумацца пра асноўнае: а якою, уласна, будуем Беларусь, калі яна, як чутно з розных дакладаў, не ідзе шляхам ні Польшчы, ні Прыбалтыкі, нават ні Расіі, дзе ў цэнтры нацыянальныя інтарэсы? Той-сёй з нас падае голас, што мы ў нейкім закутку несуразнага міні-СССР, той-сёй прыслугоўвае ў гэтай справе, тойсёй у апатыі ці раўнадушшы, а ў многіх — прысуд маўчання і асуджэння. У такой сітуацыі не варта патрабаваць толькі ад кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў, а трэба кожнаму максімальна патрабаваць і ад сябе. Новаму кіраўніцтву трэба перахапіць ініцыятыву ў байкіх шарачкоў, якія, скажам, спекулююць "на саюзе з Расіяй", бліжэй пазнаёміць Прэзідэнта, урад і ўсю пісьменніцкую грамаду. Каб той жа А. Лукашэнка ўважліва паслухаў не толькі хітрыноў-гулякоў, але лепшых майстроў слова, то ён, безумоўна, лепш зразумеў бы нашы адны глыбінныя нацыянальныя інтарэсы і зрабіў бы значна больш, каб належна забяспечыць дзяржаўнасць беларускай мовы, г. зн. на справе споўніць тое, што і трэба рабіць па Канстытуцыі. У сваю чаргу многія з нас, безумоўна, не адмовіліся б памагчы падрыхтаваць адпаведны Дэкрэт.

**2.** Чыімі сіламі можа змяніцца сітуацыя?

У гэтай справе не варта падзяляцца. Тых, хто не толькі піша, але і добра піша, не так ужо і шмат. Тым больш — хто не толькі беларускамоўны, але і нацыянальна свядомы. Таму ў гэтай важнай справе трэба спадзявацца на ўсіх: і на нашых мудрых аксакалаў, якія ўзровень беларускай літаратуры паднялі да сусветнага, і на сярэдняе, і на самае маладое пакаленні, сярод якіх нямала гросмайстраў слова, людзей шчырых і дзелавых.

Пісьменніцкі з'езд павінен усё гэта дбайна ўзважыць і абмеркаваць, ясней акрэсліць агульныя нашы задачы і абраць свой дзелавы штаб. Але як гэта можна зрабіць за адзін, планаемы дзень???

Хочацца верыць, што ўрад, спонсары паспрыяюць сродкамі, каб з'езд папрацаваў хоць бы дні чатыры. Пісьменніцкі форум варты таго, каб з ім не толькі лічыцца, але і ўскладаць на яго вялікія надзеі, натхніць на належнае духоўнае забеспячэнне сарцавіны, душы таго, што мы называем Беларуссю. Асабіста я чакаю пачуць на з'ездзе сур'ёзнае выступленне Прэзідэнта і бачу яго ўдзел у з'ездаўскай рабоце.

### Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

**1.** За апошняе дзесяцігоддзе наш саюз паступова і няўхільна страчваў статус творчай арганізацыі і гэтак жа паступова і няўхільнаператвараўся (і ператвараўся) у своеасаблівы клуб даверу — гэта значыць, у такую грамадскую арганізацыю, дзверы якой адчынены для кожнага, хто аловак адрознівае ад цвіка.

Дык вось, за апошнія дзесяць гадоў наш саюз ператварыўся ў дастаткова, можна сказаць, дэмакратычную суполку, у якой ніхто нікім асабліва не цікавіцца, кожны пераважна заняты сабою.

Асаблівай бяды ў гэтым не бачу.

Кепска іншае — наша літаратурная сям'я, здаецца, ужо забылася на сваё ці не асноўнае прызначэнне — спрыяць творчасці...

Зрэшты, мы не павінны страціць тое, што маем, таму саюз (ці няхай сабе клуб!) павінен застацца і мусіць у сваёй кіраўнічай аснове перарасці ў мабільную рухомую структуру, дзейнасць якой вызначалася б сёння для нас абсалютна непазбежным правілам: грошы дзеля творчасці!

Таму для ўмацавання нашага саюза пісьменніцкі з'езд, спадзяюся, вылучыць на кіраўнічыя пасады тых творцаў, якія ўмеюць зарабляць або здабываць грошы і ў той жа момант застацца творцамі.

**2.** Спадзяюся на Я. Будзінаса, Г. Бураўкіна, У. Клімовіча, У. Ліпскага, У. Ягоўдзіка...

СУСТРЭЧЫ

# Праз прызму "Бабчына"

З шэрагу мерапрыемстваў, праведзеных апошнім часам калектывам бібліятэкі-філіяла N 10 Мінскай цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы, гэтае вылучаецца тым, што ў зале панавала рэдкае на сённяшні дзень аднадушша: кніга "Бабчын" Міколы Мятліцкага, прэзентацыя якой праходзіла ў бібліятэцы, глыбока кранула сэрца кожнага, хто прыйшоў сюды, сваёй праўдай пра Чарнобыль, уменнем аўтара праз прызму роднай вёскі ўбачыць боль усёй паслячарнобыльскай Беларусі.

Пра тое, наколькі яркай і адметнай з'яўляецца новая кніга М. Мятліцкага ў сучаснай беларускай паэзіі, гаварылі народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін, народная артыстка Марыя Захарэвіч, крытык Алесь Марціновіч. А тон гаворцы задала загадчык абанемента бібліятэкі Ірына Зенчык.

Выступіў і М. Мятліцкі. І з чытаннем сваіх твораў, у тым ліку новых, і з расказам пра тое, як нараджалася гэтая кніга пра родную яму вёску і адначасова пра ўсю Беларусь.



"Пакінуць жывой сваю вёску, свой Бабчын, — такую задачу я паставіў перад сабой, — прызнаўся паэт. — Паверце: пабудаваць вёску ў слове намнога цяжэй, чым у сапраўднасці". Але ён "адбудаваў" свой Бабчын, увекавечыў яго.

На развітанне М. Мятліцкі пакінуў чытачам дзесяткі аўтографаў.

*На здымку: слова пра кнігу Міколы Мятліцкага гаворыць народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін.*

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

АБСЯГІ

*БРЭСТ...*

## "Мастакі Брэстчыны"

Так называецца унікальны альбом-каталог, якім адзначыла свой паўстагадовы юбілей абласная арганізацыя беларускага Саюза мастакоў. У альбоме — звесткі пра больш чым 50 аўтараў-членаў саюза (як сённяшніх, так і тых, хто пайшоў з жыцця) і столькі ж фотарэпрадукцый іхніх найбольш яркіх твораў. А таксама кароткі экскурс у гісторыю станаўлення арганізацыі, аглядны артыкул вядомага мастацтвазнаўцы рэспублікі Барыса Крэпака і ўступнае слова старшыні аблвыканкама У. Заламая. Гэта самы поўны збор імёнаў берасцейскіх мастакоў і іхніх творчых характарыстык за ўсе гады існавання арганізацыі.

Звяртае ўвагу высокі дызайнерскі і паліграфічны ўзровень выдання, што выявілася найперш у якасці рэпрадукцый. Альбом выйшаў накладам у дзве тысячы асобнікаў.

## Прэмія часопіса "Москва"

Паэт-пінчанін Валерый Грышкавец, які апошнія гады жыве ў Маскве, з поспехам "асвойвае" расійскую перыёдыку. Ён не толькі актыўна друкуе ўласныя вершы, але і шмат перакладае беларускіх паэтаў: Віктара Шніпа, Леаніда Галубовіча, Алеся Каско, Міхася Рудкоўскага, Міколу Купрэева, Віктара Гардзея, Алеся Пашкевіча...

За нізкі арыгінальных вершаў і перакладаў з сучаснай беларускай паэзіі часопіс "Москва" прысудзіў яму прэмію па выніках мінулага года.

**Сымон АКСЕНІН**

## Першы рэспубліканскі

У межах першага рэспубліканскага фестывалю народнай творчасці "Беларусь — мая песня" ў гарадах і раёнах вобласці праводзяцца самыя разнастайныя святы, агляды, конкурсы. Днямі "фестывалілі" Брэст, Жабінкаўскі і Маларыцкі раёны. З творчай справаздачай выступалі мясцовыя артысты, была наладжана выстава дэкаратыўна-прыкладнога і выяўленчага мастацтваў. Узровень вельмі высокі. Прадстаўнічаму журы трэба пастарацца, каб адабраць лепшыя калектывы для паездкі ў Мінск.

**Святлана ГУЛЯЕВА**

*МАГІЛЁЎ...*

## Дыскі, якія не пабачым

Як паведамляў ужо "ЛіМ", у Нью-Йорку фірмай "Ellipsis Arts" выдадзены зборнік з трох кампактдыскаў "Музыка Усходняй Еўропы". Вельмі прыемна, што нашу рэспубліку прадстаўляюць два калектывы: мужчынскі камерны хор "Унія" Магілёўскай абласной філармоніі і фальклорнага гурт "Ліцвіны" з Мінска.

"Унія" і адкрывае гэты збор выкананнем старажытных напеваў Супрасльскага кляштара. Напэўна таму, што літургічная поліфанія, якую выконвае наш калектыў, у свой час зрабіла значны ўплыў не толькі на музычную культуру Беларусі, Украіны і Расіі, але і на народную музыку ўвогуле. А нам застаецца пашкадаваць, што гэты збор пачуюць толькі замежныя слухачы.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*ГОМЕЛЬ...*

## Цвітуць "Падснежнікі"

Фестываль дзіцячай паэзіі "Падснежнікі" адбыўся ў Рагачове. Прайшоў ён тут упершыню, а ініцыятарам сталі гарадскі аддзел культуры, Рагачоўскае аддзяленне асацыяцыі духоўнай культуры "Дачыненне" і, вядома ж, мясцовыя літаратары.

У першым туры фестывалю бралі ўдзел 30 паэтаў з усіх шасці школ горада. Да юных літаратараў звярнуліся намеснік старшыні гарвыканкама Р. Ястрэмская, загадчыца дзіцячай бібліятэкі Н. Падгурская, кіраўнік музея "Пісьменнікі — землякі", выдатнік педвучылішча У. Немізанскі.

Адзінаццаць пераможцаў фестывалю атрымалі памятныя падарункі і заахвочвальныя дыпломы, а таксама кнігі з аўтографамі пісьменніка-земляка Васіля Ткачова.

— Мяркуем падключыць да нашага фестывалю і вясковыя таленты, — паведаміў адзін з арганізатараў, мясцовы паэт Юры Арэстаў. — А лагічным завяршэннем усіх гэтых пачынанняў стане, магчыма, першы на Рагачоўшчыне альманах дзіцячай паэзіі.

У што вельмі хочацца верыць.

## Пра нашу мову

Зборнік вершаў "Каласы роднай мовы", які выйшаў у выдавецтве "Універсітэцкае" ў 1990 годзе, імгненна разышоўся... Мова наша таленавітая, прыгожая, багатая! У гэтым мы можам пераканацца яшчэ раз, калі звернемся да новай кніжкі гомельскіх навукоўцаў — "Сэрцам роднага слова краніся" (Мінск, "Народная асвета", 1998 г.). Склалі гэтую хрэстаматыю прарэктар па вучэбнай і выхаваўчай рабоце Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны М. Воінаў і загадчык музея-лабараторыі Ф. Скарыны К. Усовіч. У кнізе 426 вершаў пра беларускую мову. Уступны артыкул складальнікаў, тэматычны і імянны паказальнікі. 211 аўтараў у хрэстаматыі! Прыемна, што сабраны яны руплівымі пад адной вокладкай і гаворку вядуць пра тое, што хвалюе, — пра мову родную, якая павінна жыць вечна, як зямля наша, як неба, як паветра.

**Ігар ЛЯСНЫ**

*ВІЦЕБСК...*

## Шоу без бізнесу

Міжнародны фестываль "Славянскі базар у Віцебску" пройдзе з 21 па 29 ліпеня. Падрыхтоўка да яго ідзе поўным ходам. За дзевяць фестывальных дзён будзе наладжана больш за сто мерапрыемстваў: фальклорнае свята, харавая асамблея "Што ёсць Айчына без веры", вечар з удзелам зорак балета Беларусі, Украіны, Расіі, Францыі, Эстоніі, конкурс маладых эстрадных выканаўцаў...

Мяркуецца, што на "Славянскім базары..." будуць узняты 34 сцягі дзяржаў-удзельніц. Журы конкурсу маладых выканаўцаў (як паведамлялася ўжо) узначаліць расійскі кампазітар І. Круты, які паабяцаў, што "ў Віцебску будзе шоу і не будзе бізнесу".

Фінансуецца гэты праект з бюджэту Саюза Расіі і Беларусі. Расходы складуць мільён 140 тысяч долараў. 65 працэнтаў — уклад Расіі, астатняе выдаткуе Беларусь.

**Святлана ГУК**

## Персанальная выстава



**У музычнай гасцёўні ў Віцебску адкрылася першая персанальная выстава работ мастака Алега Кірушкіна. Яны вызначаюцца рэалістычнай накіраванасцю, імкненнем спазнаць прыроду, зліцца з багаццем яе фарбаў.**

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## У пасёлку Дзераўное

**У памяшканні сярэдняй школы пасёлка Дзераўное Стаўбцоўскага раёна створаны музей "Літаратурная Стаўбцоўшчына". Цэнтральнае месца ў ім займаюць матэрыялы пра пісьменнікаў-землякоў, а таксама пра тых творцаў, каго ў розныя гады натхняла Наднёманская зямля.**

**Музей мае чатыры раздзелы: "Яны стаялі ля вытокаў", "З Мікалаеўшчыны родам", "Зямля, дзе пачаўся твой лёс" і "Нёманам натхнёныя", якія знаёмяць з творчасцю народнага песняра Якуба Коласа, Генрыха Далідовіча, Алеся Рыбака, Казіміра Камейшы, Міколы Маляўкі, Алеся Камароўскага, Яўгена Хвалея і іншых.**

**Кнігі, часопісы, лісты, здымкі, фотакопіі, карэспандэнцыі і артыкулы, змешчаныя ў газетах "Звязда", "Літаратура і мастацтва", "Прамень", выказванні пра Стаўбцоўшчыну прыслалі многія пісьменнікі. Настаўнікі і вучні сабралі таксама ўспаміны пра Якуба Коласа і іншых творцаў. Ёсць у музеі і рэдкія кнігі, каштоўныя дакументы, перыядычныя выданні, якія не заўсёды знойдзеш у іншых музеях.**

**Музей прыгожа аформлены.**

**— Але наша задача — не толькі збіраць экспанаты, — гаворыць загадчыца музея, настаўніца роднай мовы і літаратуры Соф'я Варатынцава, — а і расказваць вучням і наведвальнікам пра каштоўныя экспанаты, раскрываць на іх лёс народа, выхоўваць у дзяцей любоў і павагу да роднага краю.**

**У музеі бывае нямала наведвальнікаў. Сярод іх — настаўнікі роднай мовы і літаратуры школ Стаўбцоўшчыны і іншых раёнаў Мінскай вобласці. Бываюць тут і вучні са школ раёна, а таксама былыя выпускнікі школы.**

**Іосіф ПАЖОГА**

## Першы нямецкі даведнік па Беларусі

**Як паведаміў у першым за сёлетні год нумары часопіс "Deutschland" ("Германія"), у берлінскім выдавецтве "Трэшар" упершыню з'явіўся нямецкамоўны даведнік "Адкрыццё Беларусі". Цікавасць да новага выдання адразу праявілі гандлёвыя палаты і прадстаўніцтвы Германіі на Беларусі. У прыватнасці, пасольства Германіі ў Рэспубліцы Беларусь заказала 50 экземпляраў даведніка. Увесь жа тыраж у тры тысячы экземпляраў разлічаны на два гады, пасля чаго выдавецтва і аўтар Эвелін Шэер маюць намер выпусціць даведнік у новай рэдакцыі. Шэер з'яўляецца спецыялістам па славістыцы, а каб падрыхтаваць гэтае, такое неабходнае сёння выданне, ёй спатрэбіўся год. Часопіс выказвае меркаванне, што яно "можа быць карысным і для беларускіх чытачоў: у сваю кнігу Шэер уключыла новыя назвы вуліц усіх беларускіх гарадоў".**

# Прыняты ў Саюз беларускіх пісьменнікаў

**Гуцаў Андрэй Фёдаравіч.** Нарадзіўся ў 1967 годзе ў вёсцы Галавінцы Гомельскага раёна. Скончыў Латвійскі дзяржаўны універсітэт (1993). На творчай працы.

Аўтар кніг паэзіі "Адчужэнне" (1994), "Шалёная ноч" (1995), публікацый у перыёдыцы.

**Бензярук Расціслаў Мацвеевіч.** Нарадзіўся ў 1944 годзе ў вёсцы Стрыганец Жабінкаўскага раёна. Скончыў Брэсцкі педагагічны інстытут імя А. С. Пушкіна (1966). Загадчык аддзела пісем у жабінкаўскай раённай газеце "Сельская праўда".

Аўтар кнігі для дзяцей "Вавёрчына дзякуй", шматлікіх публікацый у калектыўных зборніках і перыёдыцы.

**Мазур Тамара Міхайлаўна.** Нарадзілася ў 1964 годзе ў вёсцы Лозы Ваўкавыскага раёна. Скончыла Мінскі кааператыўны тэхнікум (1987), вучылася ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Працуе аглядальнікам у рэдакцыі газеты "Чырвоная змена".

Аўтар кнігі паэзіі "Спакуса", што выйшла ў "Бібліятэцы часопіса "Маладосць" (1995), публікацый у друку.

**Наталіч Наталля (Давыдзенка Наталля Аляксееўна).** Нарадзілася ў 1950 годзе ў г. Савецкая Гавань Хабараўскага краю (Расія). Скончыла Беларускі дзяржаўны універсітэт (1974). Працуе ў Скарынаўскім цэнтры.

Аўтар кніг паэзіі "Первая встреча" (1989), "В лесном саду" (1992), публікацый у перыёдыцы.

**Нафрановіч Аркадзь Іосіфавіч.** Нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Юшкавічы Мядзельскага раёна. Скончыў Лепельскае педвучылішча (1956), Беларускі дзяржаўны універсітэт (1968).

Друкаваўся ў калектыўных зборніках; аўтар кніг паэзіі "Мядзельскі мерыдыян" і "Мелодыі роднага краю" (абедзве выйшлі ў 1995 годзе).

**Неўдах Лявон Пятровіч.** Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Радчыцк Столінскага раёна. Скончыў Наваполацкі нафтавы тэхнікум (1966), Беларускі дзяржаўны універсітэт (1981). Працуе ў рэдакцыі наваполацкай газеты "Химик".

Аўтар кнігі прозы "Формула дабрыні" (1989), публікацый у калектыўных зборніках і перыёдыцы.

**Сільнова Людка (Людміла Данілаўна).** Нарадзілася ў 1957 годзе ў Маладзечне. Скончыла Беларускі дзяржаўны універсітэт (1979). Працуе бібліятэкарам Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

Аўтар кнігі паэзіі "Ластаўка ляціць..." (1993), публікацый у перыёдыцы.

**Сом Лера (Алена Уладзіміраўна).** Нарадзілася ў 1966 годзе ў Полацку. Скончыла Віцебскі дзяржаўны педагагічны інстытут (1985), з 1994 года завочна вучыцца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Выкладае маляванне ў СШ N 5 г. Полацка.

Аўтар кніг паэзіі "Блюз каралеўскае кухні" (1994), "Адзінокая зорка" (1996), публікацый у перыёдыцы.

**Тварановіч-Сеўрук Галіна (Тварановіч Галіна Паўлаўна).** Нарадзілася ў 1955 годзе ў пасёлку Дараганава Асіповіцкага раёна. Скончыла Беларускі дзяржаўны універсітэт (1977), аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР (1983). Кандыдат філалагічных навук. Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы.

Аўтар кнігі паэзіі "Ускраек тысячагоддзя" (1996), даследчыцкіх прац "Маральны свет героя" (1986), "Пакутаю здабыты мір" (1991), "Беларуская літаратура. Паўднёваславянскі кантэкст" (1996), публікацый у друку.

**Шурпа Уладзімір Канстанцінавіч.** Нарадзіўся ў 1939 годзе ў вёсцы Саволеўка Гродзенскага раёна. Скончыў Гродзенскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя Янкі Купалы (1964). Рэдактар Гродзенскага тэлерадыёаб'яднання.

Аўтар кнігі паэзіі "Перазвон адліг", публікацый у калектыўных зборніках і перыёдыцы.

# Я — ёсць я

***Беларускія дзеці атрымалі ад чытачоў аўстрыйскай газеты "Зальцбургскія навіны" добры падарунак — кнігу дзіцячай аўстрыйскай пісьменніцы Міры Лобэ "Маленькае Я — гэта Я". Малюнкі ў кніжцы зрабіла мастачка Зузі Вайгель, на беларускую мову яе пераклаў Эдуард Акулін. Рэдактар выдання — Алесь Бяляцкі. Выйшла кніга накладам 14000 асобнікаў і ўсе яны будуць распаўсюджвацца бясплатна. Ініцыятыва выдання належыць пастару Якабу Фёргу. Гэта ўжо не першая кніжка, якую спадар Якаб прэзентуе беларускім дзецям, і ўвогуле дзецям Усходняй Еўропы. Менавіта прэзентуе — бо кніжка распаўсюджваецца бясплатна. Герой кнігі — маленькае зверанятка, якое спрабуе ўсвядоміць, хто яно, дзе яго сям'я, каму яно патрэбнае. Шлях да самаўсведамлення доўгі і пакутлівы, але нарэшце зверанятка прыходзіць да высновы, зазначанай у назве кніжкі: "Я — гэта Я", кожная істота ў свеце мае аднолькавую каштоўнасць перад Сусветам і Богам, і не важна, як хто называецца... Нядаўна рэдакцыю "ЛіМа" наведалі людзі, спрычынныя да гэтага выдання: пастар Якаб Фёрг і журналіст газеты "Зальцбургскія навіны" спадар Рэйнхард Крайхбаум. Карыстаючыся выпадкам, супрацоўнікі рэдакцыі зладзілі імправізаваную прэс-канферэнцыю гасцей.***

**— Як з'явілася ідэя выдання кнігі "Маленькае Я — гэта Я" на Беларусі?**

**Сп. Якаб Фёрг.** Усё пачалося пяць гадоў таму, калі я зацікавіўся самой ідэяй выдаваць кнігі для дзяцей краін Усходняй Еўропы. Спачатку я збіраў невялічкія дзіцячыя кнігі для тых дзяцей, што могуць чытаць па-нямецку — у краінах Балтыі, СНГ. Але аднойчы сам прачытаў адну з тых кніжак і захацеў, каб яе змаглі прачытаць і тыя дзеці, што не ведаюць нямецкай мовы. У адным з маскоўскіх выдавецтваў я атрымаў дазвол на выданне гэтай кнігі. Затым я прыехаў сюды, у Мінск, каб вызначыць, які наклад павінен быць для беларускіх дзяцей. Вынікам гэтай паездкі стаў артыкул, прысвечаны дзецям, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы. Артыкул з'явіўся ў газеце аўстрыйскага горада Лінца і атрымаў вялікі рэзананс. І тады я прыйшоў у газету "Зальцбургскія навіны" з прапановай надрукаваць кніжку менавіта для тых дзяцей, пра якіх расказваў артыкул.

У рамках праграмы выданняў для дзяцей Усходняй Еўропы выйшла ўжо тры кніжкі. Яны выходзілі за кошт розных прыватных ахвяраванняў. А гэтая кніжка Міры Лобэ выйшла цалкам за кошт сродкаў чытачоў "Зальцбургскіх навінаў". Мне пашанцавала, што я сустрэў у гэтай газеце ўзаемаразуменне і сапраўдны прафесіяналізм. Рэдактарка параіла мне падрыхтаваць менавіта гэтую кніжку Міры Лобэ, таму што гэты твор друкаваўся ў іх выданні.

**Сп. Рэйнхард Крайхбаум.** Міра Лобэ — вядомая аўстрыйская аўтарка. На жаль, яна памерла два гады таму.

**— А што ўяўляе з сябе газета "Зальцбургскія навіны", якая спрычынілася да гэтага дабрачыннага выдання?**

**Сп. Рэйнхард Крайхбаум.** Гэта штодзённая газета, якая выходзіць накладам 130 тысяч экземпляраў. У суботу і нядзелю наклад павялічваецца да 160 тысяч. Не вельмі многа. Але гэта — не бульварная газета, чые тыражы даходзяць часам да паўмільёна. "Зальцбургскія навіны" — сур'ёзнае, незалежнае выданне. Незалежнае ў тым сэнсе, што не залежыць ад вялікіх нямецкіх выдавецтваў. Аўстрыя — невялікая дзяржава, таму часта здараецца, што нямецкія выдавецтвы купляюць аўстрыйскія выданні. Што тычыць палітычнай арыентацыі, гэта кансерватыўная газета. Кола чытачоў пераважна высокага інтэлектуальнага ўзроўню, рознага ўзросту: ад акадэмікаў да гімназістаў. Чытаюць "Зальцбургскія навіны" не толькі ў Зальцбургу, а і ва ўсёй Аўстрыі. Газета чыста аўстрыйскай арыентацыі. У ёй друкуецца шмат артыкулаў на тэмы культуры.

**Сп. Якаб Фёрг.** Дарэчы, наступны праект, які рыхтуе газета, — кніга Астрыд Ліндгрэн, якая цяпер перакладаецца на беларускую мову. Дарэчы, усе пераклады — з абароненымі аўтарскімі правамі, гэта не "пірацкія выданні". Калі кніга выходзіць, звычайна аўтар мае права на пэўны працэнт ад выдання. Але і Міра Лобэ, і Астрыд Ліндгрэн адмовіліся ад гэтых працэнтаў. Гэта — цалкам дабрачыннае выданне.

**— Можа быць, вы лічыце, што ўсведамленне "Я — ёсць Я" актуальнае менавіта для дзяцей Усходняй Еўропы, на тэрыторыі постсавецкіх дзяржаў, дзе доўгі час культывавалася калектывісцкая ідэалогія?**

**Сп. Якаб Фёрг.** Самаасэнсаванне мае значэнне для ўсіх дзяцей свету. Гэта не палітычнае пытанне. Кніга "Маленькае Я — ёсць Я" выдавалася ў рамках праекта для чарнобыльскіх дзяцей і дзяцей - сірот. У гэтай катэгорыі могуць быць псіхалагічныя праблемы, што тычацца ўсведамлення сваёй каштоўнасці, самаасэнсавання. Акрамя таго, цяпер, калі дзеці гадзінамі сядзяць перад тэлевізарам, кніга павінна быць альтэрнатывай. У працяг тэмы, якая падмаецца, мы хацелі выдаць яшчэ адну кнігу, але не атрымалі, на жаль, згоды з парыжскага выдавецтва, — кнігу пра сляпа-глуханямую дзяўчынку, якая ў выніку працы над сабой, змагла атрымаць універсітэцкую адукацыю, знайсці сваё месца ў свеце. Ёсць і яшчэ адна прычына выдання такіх кніжак — каб абуджаць у сэрцах хрысціянскія пачуцці, трэба пачынаць з дзіцячага ўзросту.

**Госці з Аўстрыі ў сваю чаргу цікавіліся грамадскім і культурным жыццём Беларусі, шмат пытанняў у іх было пра газету "Літаратура і мастацтва". На жаль, у Аўстрыі амаль нічога не ведаюць пра нашу краіну і тым больш яе выданні. Тым болей карысная была ініцыятыва аўстрыйцаў у дапамозе духоўнаму адраджэнню нашай краіны. Дасюль мы прывыклі атрымліваць з-за мяжы падтрымку матэрыяльную, цяпер пачынаецца духоўная дапамога. Думаецца, яна не менш важкая для нас.**

**За час візіту на Беларусь сп. Я. Фёрг і Р. Крайхбаум наведалі некалькі дзіцячых садкоў і дамоў у Мінску і Гомелі, сустрэліся з прадстаўнікамі фондаў "Дзеці Чарнобыля" і "Дзеці ў бядзе" (арганізацыя бацькоў дзяцей з анкалагічнымі захворваннямі), пабылі ў Цэнтры анкалогіі і гематалогіі (дарэчы, пабудаваным пры дапамозе аўстрыйцаў) і дзіцячым туберкулёзным санаторыі. І ўсюды сустракаліся з дзецьмі, якім на памяць пакідалі кнігу "Маленькае Я — гэта Я"...**

# Без першацвету маладосці якое полымя душы...

## БЕЛАРУСКАМОЎНАЯ ДЗЯРЖАЎНАЯ ПЕРЫЁДЫКА СЁННЯ ЖЫВЕ. ШТО БУДЗЕ ЗАЎТРА?

НАСТАЎНІЦКІ пяцігадовы вопыт іншым разам замінае журналісцкай справе. Хочацца вучыць жыццю моладзь, якая зацята жуе "спермент", перабіваць у спрэчках састарэлых партыйцаў, што шумна і не надта разумна змагаюцца за мінулае, паментарску ўшчуваць чыноўнікаў, зніжаючы ім адзнакі за руплівасць...

Калісьці старшакласнікі, шалеючы ў прадчуванні блізкіх выпускных экзаменаў, на першым часе бездапаможна "штурмавалі" неабдымную праграмную тэму, звязаную з сучаснай (чытай — новай) беларускай літаратурай. Лямантавалі: "На кнігі — грошай няма, а ў састарэлых хрэстаматыях — аніякіх навінак". Упэўнена супакойваў нецярплівых выхаванцаў, маючы за спіной надзейны тыл у выглядзе школьнай бібліятэкаркі Раісы Міхайлаўны (як бы ні падціскала школьны бюджэт з грашыма, яна заўжды знаходзіла сродкі для больш-менш поўнай падпіскі). Таму і асаджваў вучняў. Маўляў, без панікі, даражэнькія, навыперадкі ў нашу чытальню. Там да вашых паслуг і мадэрновы ў творчых пошуках "Першацвет", і эклектычна-элітарная "Крыніца", і хрэстаматыйна шчырае "Полымя". Выданні на любы густ, на любое літаратурнае запатрабаванне.

І цягнулі вучні дахаты стосы свежых мастацка-публіцыстычных часопісаў і газет (зусім не грэбуючы, паміж намі кажучы, і "ЛіМам"), і яшчэ раз на ўласным навучальна-творчым вопыце пераконваліся, што друкаванае беларускае слова — не верабей. Калі западзе ў душу чарговым усплёскам прозы сваёй ці паэзіі, то захаваецца там надоўга, даючы выйсце жывым думкам, умацоўваючы пачуццё грамадзянскасці і самасвядомасці...

А як жа на сёння з мастацка-публіцыстычнай перыёдыкай, скажам, у абласной бібліятэцы імя Пушкіна? Выдатна. Цану сабе ўстанова ведае, ад жыцця не адрываецца.

— Чытаюць людцы, чытаюць, — запэўнівае Маргарыта Уладзіміраўна Лыка — намеснік дырэктара бібліятэкі. — Амаль пяцьдзесят тысяч чытачоў летась было, больш нормы ў два разы. З фінансаваннем — праблемы, але бібліятэку, якая, лічыце, набыла статус навуковай, імкнёмся зрабіць яшчэ і культурным цэнтрам...

Веру. Пярэчыць цяжка, бо, мяркуючы па пастаянных стасунках з пісьменнікамі, па праведзеных і плануемых культурна-асветніцкіх вечарынах, урэшце, па колькасці наведвальнікаў (у большасці вучняў і студэнтаў), якіх пабачыў у бібліятэчных залах, не "супакойваюць" тут творчае жыццё, ёсць дзе "папасвіцца" аматарам друкаванага слова.

Не пустынна і ў аддзеле беларускай і краязнаўчай літаратуры, дзе адной з гаспадынь — В. Алешка.

— Увесь беларускамоўны перыядычны друк прадстаўлены ў нас цалкам, — горача адстойвае сваё Валянціна Пятроўна. — Што за бібліятэка без гэтага!

Ох, як дапякаюць яе, аказваецца, тыя чытачы, якія шмальцуюць і крэмзаюць падшыўкі газет і часопісы. Хоць варварскі — куды нам без гэтага, — ды ўсё ж паказчык зацікаўленасці мастацка-публіцыстычнымі выданнямі. Тым жа "ЛіМам", напрыклад, якога ў чытальнай зале аж дзве падшыўкі (адна для стопрацэнтнай захаванасці).

Шмат цікавага паведаміла і супрацоўніца абласной дзіцячай бібліятэкі імя Я. Маўра Т. Шрубок:

— Дзеткі да нас ходзяць не абы-якія. Раўнадушных ці загоніш? Можна сказаць, эліта. Паспрабуй дзевяцікласніку адмовіць у тым жа "Полымі" — гвалт падыме. І "Спадчыну", і "Роднае слова", і "Маладосць" бяруць не толькі дзеля падрыхтоўкі да заняткаў, але і для душы. Вельмі нашы дзеткі зараз палітызаваныя. Аднак радуе, што пачынаюць яны сябе беларусамі адчуваць...

Пры бібліятэцы вось ужо дзесяць год дзейнічае клуб "Бацькаўшчына". Займаюцца тут вучні краязнаўствам, роднай літаратурай. Прыходзяць цэлымі класамі. Ды і настаўнікам такія формы навучання даспадобы. Скажам, для выхаванцаў філолага Н. Вашчацінскай з 23-й школы Савецкага раёна слова "Бацькаўшчына" — не з апошніх у штодзённым ужытку. Глядзіш, вось так паступова, па цаглінцы, з уважлівай аглядкай на мінулае, і будзе адрэстаўраваны гэты вялікі будынак пад агульнай назвай "Беларуская Культура". І не толькі адрэстаўраваны ды падноўлены. Былі б архітэктары свядомымі і будаўнікі — шчырымі. Тады і новыя, светлыя паверхі з'явяцца. Вада па кропельцы камень точыць. Так і выхаванне, адукацыя і самаразвіццё плён дадуць не за год і не два. Адлік гэтая карпатлівая праца бярэ — хто ж аспрэчыць — з сям'і і школы. Стан жа нашай школы нацыянальнай — галаўны боль для многіх бацькоў.

Хаця б для той самай Таццяны Віктараўны Шрубок:

— Дзіця мае ў другі беларускамоўны клас шасцідзесятай школы ходзіць. Калісьці такіх класаў чатыры было, потым — тры. Што заўтра здарыцца — невядома...

Прагназаваць будучыню цяжка і ў рабоце школьных бібліятэк. Не маю на ўвазе іх забеспячэнне падручнікамі і метадычнай літаратурай для настаўнікаў. За гэтым сочаць па абавязках сваіх спецыялісты Міністэрства адукацыі і адпаведных раённых аддзелаў. Гаворка сёння аб іншым. Пра той самы беларускамоўны перыядычны друк (падкрэсліваю яшчэ раз — дзяржаўны), стан якога відазмяняецца літаральна на вачах. Маю на ўвазе катастрафічнае падзенне накладаў — збяднелы патэнцыяльны падпісчык у першую чаргу зараз клапоціцца аб страўніках уласных дзяцей; змяншэнне аб'ёму і фармату часопісаў — прыгадайце, якім паўнацэнна-"салідным" па памерах быў яшчэ адносна нядаўна наш галоўны мастацка-публіцыстычны часопіс "Полымя".

Зразумела, справа ў недахопе грашовых сродкаў. Вельмі выразна ўяўляю зараз высакароднае абурэнне нашых дзяржаўных фінансістаў. Пазіраючы на "ахавае" становішча "Полымя", "Маладосці", "Першацвету", "ЛіМа", запярэчаць усе ў адзін голас: "Якая ж вы інтэлігенцыя! Народ галадае: а яны пра тыражы. Спачатку заробкі ўрачам ды настаўнікам трэба павысіць, калгасы на ногі ўзняць, прамысловасць нашу адладзіць, а потым ужо можна і вас паслухаць".

Чакаем лепшых часін. З жахам назіраем, што мастацка-публіцыстычныя выданні на роднай мове становяцца "элітарнымі", адзінкавымі ў віруючым моры прывабнай знешне, як пах смажаніны, друкаванай масавай культуры.

Аб усім гэтым можна меркаваць па ўжо згаданых вышэй школьных бібліятэках. А дакладней, па наяўнасці ў іх перыядычных выданняў.

У 160-й сталічнай школе на кніжных паліцах з беларускамоўных мастацкіх часопісаў толькі "Вясёлка".

— Выпісала б і "Крыніцу", і "Спадчыну", на іх у нашых вучняў заўжды попыт, — тлумачыць бібліятэкарка Т. Кульпіна. — Ды вось гора — грошай няма. На ўсю паўгадавую падпіску некалькі соцень тысяч.

Больш багацейшы выбар у школе-ліцэі N 165. Але ў асноўным гэта метадычныя выданні для настаўнікаў: "Беларускі гістарычны часопіс", "Народная асвета", "Пачатковая школа", "Адукацыя і выхаванне". Часопісаў "Полымя" і "Маладосць" школьнікі тут не знойдуць. А вось "Беларускую думку" — калі ласка. Загадчыца бібліятэкі В. Мінаева прызнаецца, што тэрмінова выпісала гэтае выданне па "прапанове" раённага аддзела адукацыі.

А ў 67-й школе сітуацыя амаль што казусная. Мясцовая бібліятэкарка Нэлі Іванаўна Лістапад — жанчына энергічная, баявая — дэмакратычных поглядаў на жыццё не прыхоўвае:

— У нас плюралізм! Выпісваем і "Товарищ", і "Народную волю"!

— Дык, Нэлі Іванаўна, гэта хутчэй для настаўнікаў. А для вучнёўскага літаратурнага попыту што?

— Ну... Вось "Першацвет".

Адзінае мастацкае выданне на вялізную, вельмі аўтарытэтную ў горадзе школу! І побач тая ж самая "Беларуская думка", відаць, таксама падпісаная па ўказцы "зверху". Мабыць, няма ў Нэлі Іванаўны шчыльных кантактаў з настаўнікамі-прадметнікамі, якія, цудоўна ведаючы школьныя праграмы, а значыць, і будучыя запатрабаванні вучняў, маглі б параіць, якую газету ці часопіс выпісаць трэба проста неадкладна.

Размаўляю з выкладчыцай роднай мовы і літаратуры М. Гайдук. Тая з гатоўнасцю згаджаецца, што арыентавацца маладому чытачу ў навінках нашай прозы, паэзіі, драматургіі і крытыкі проста немагчыма без "Полымя", "Маладосці", "Крыніцы". А Нэлі Іванаўна, кінуўшы вокам на маё службовае пасведчанне, з паспешлівасцю дадае, што і "ЛіМ" школьная бібліятэка абавязкова выпіша, бо грошай быццам хопіць, на паўгоддзе выдаткавалі для падпіскі больш за мільён.

Неяк гаркавата на душы стала. Ці ж з гэтай мэтай сёння па школках хаджу. І не збіраецца наш тыднёвік навязваць сябе камусьці прымусова. Гаворка ж пра іншае. Школьніку (няхай і старшакласніку) дарослы дарадца патрэбен. Настаўнік, бібліятэкар. Каб разабрацца мог вучань, дзе сапраўднае, а дзе падманнае. Так, так, згодны, чалавек мае права на выбар, і права гэтае святое. Але чаго чакаць, калі выбар проста не прадастаўлены, калі ў школьнай бібліятэцы літаральна няма з чаго выбіраць.

Дык хто ж заказвае музыку? А дакладней, хто фінансуе, а значыць, і кантралюе ў школках падпіску на часопісы і газеты?

— У нашай арганізацыі — ніхто! — катэгарычна сцвярджае галоўны эканаміст Міністэрства адукацыі Л. Антановіч.

У далейшай размове з Людмілай Станіславаўнай высвятляю не без цікаўнасці, што школьныя бібліятэкі ў справе падпіскі "сілкуюцца" грашыма з мясцовых бюджэтаў, што ўсё фінансаванне ідзе праз раённыя аддзелы адукацыі. Вось яны і заказваюць музыку, а дакладней, мастацка-публіцыстычную перыёдыку. Як гэта робіцца, мы ўжо ведаем.

— Так, удакладняе Людміла Станіславаўна, — грашыма распараджаюцца дырэктары школ. Але ці можаце вы іх абвінаваціць у збядненні школьных бібліятэк, пазнаёміўшыся вось з гэтым дакументам?

Знаёмлюся. "Бюджэтная класіфікацыя" Міністэрства фінансаў, дзе дакладна распісаны кожны элемент школьных грашовых запатрабаванняў. "Расходы па набыцці перыдыядычнага друку: газет і часопісаў" суседнічаюць з такімі, напрыклад, празаічнымі па сувязі з рэальным жыццём пунктамі: "дэзінфекцыя і знішчэнне грызуноў і розных насякомых", "набыццё матэрыялаў і прадметаў для бягучых гаспадарчых мэтаў" і г. д.

Зразумела, дырэктар, знаходзячыся ў неабмежаваным па часе палоне грашовай бяскорміцы, іншым разам проста вымушаны выбіраць: пазбаўляцца школе ад пацукоў і "розных насякомых" ці мець у сваёй бібліятэцы "Полымя" для штодзённых патрэб выпускнікоў. Чарговы жыццёвы абразок: высокае і нізкае побач. І не ў абдымках, а ў пастаяннай лютай барацьбе. Што перамагае, тлумачыць не трэба.

Магчымы апанент адразу запярэчыць: няма чаго тут філасофстваваць! Зыход гэтай дыялектычнай барацьбы ад асобы ў першую чаргу залежыць. Калі на начальніцкім месцы сапраўдны чалавек, асоба, інтэлігент, то ў школе і з духоўным, і з матэрыяльным праблем не будзе.

Падтрымлівае гэты пункт гледжання і Л. Антановіч:

— Іншым разам раўнадушша больш гора наробіць, чым адсутнасць грошай. У адным з раённых аддзелаў адукацыі Мінска, дакладна гэта ведаю, увогуле забаранілі фінансаванне школьнай падпіскі. Аргумент адзіны: калі настаўнікам выплачваюцца штомесяц грошы для набыцця літаратуры, дык няхай самі і выпісваюць газеты і часопісы. А ў выніку атрымалася, што пакутуюць у пустых бібліятэках у першую чаргу вучні.

Як вельмі трывожную расцэньваюць дадзеную сітуацыю і ў планава-эканамічным аддзеле гарадскога ўпраўлення адукацыі. Галоўная мясцовая фінансістка Людміла Міхайлаўна Арлова тлумачыць:

— Як маці, адчуваю, што маё дзіця ў школьнай бібліятэцы абдзелена ў правах, а як эканаміст добра ведаю, што становішча яшчэ доўга не выправіцца. Разумею і дырэктараў. Дбаюць яны зараз не пра падпіску, а пра заробак настаўнікаў-бедакоў і харчаванне дзетак...

А што, цікава, скажуць самі дырэктары?

— У свайго раённага аддзела на падпіску не прасілі ні капейкі, — катэгарычна сцвярджае дырэктар школы N 10 Аляксандр Яўгенавіч Балакін. — Райна нам яшчэ для рамонту спатрэбіцца. Абышліся сваімі сіламі.

— Цікава, як?

— Амаль паўмільёна даў наш прафкам, — падхоплівае гутарку бібліятэкарка Т. Баранава. — Ды яшчэ і спонсар дапамог...

Так, пашчасціла дзесятай школе і на дырэктара — выключна разумнага гаспадара і адміністратара, і на фундатара-мецэната — бацьку аднаго з вучняў. Дзіва, але Аляксандр Альбертавіч Савін, супрацоўнік адной са сталічных фірм, грошай на школьную падпіску не шкадуе. Ды толькі з "Полымем", "Першацветам" і "ЛіМам" тут чамусьці таксама прамаргалі.

— А я лічу, што гэта і ваша віна, — рубіць рукой паветра Балакін. — Ну, не падказалі нашы настаўнікі-беларусаведы своечасова, што выпісваць трэба. А дзе вы былі ў час падпісной кампаніі? Дзе ваша рэклама?

У нейкай меры — згодны. Хто ж аспрэчыць, што "выратаванне тапельцаў — справа рук саміх тапельцаў". Лезе ў галаву і незабыўнае з універсітэцкага курсу лекцый па марксізме: "у аснове развіцця культуры ляжыць развіццё матэрыяльнай вытворчасці". Не выконваецца апошняе — выплывайце самі...

Мроіцца штосьці недарэчнае. Мастацтва на самафінансаванні... Культура без дзяржаўнай падтрымкі... Дзе, у якой краіне свету магчыма сумяшчэнне несумяшчальнага? Прагназую начальніцка-катэгарычнае: "Не выпісваюць, бо не чытаюць! Навошта грошы ўпустую губляць на фінансаванне падпіскі ды на кантроль за ёй!" І прыгадваецца з гэтай нагоды вось што. Аднойчы на маіх вачах бабулька на Камароўцы, прадаўшы канарэйку ў клетцы, інструктавала шчаслівую малую ўладальніцу: "Кармі яе, дзетка, бо загіне птах!" А той кенар, дарма што ў клетцы, ох як заліваўся-спяваў. Куды да яго тым вольным, але тлустым камароўскім вераб'ям ды галубам. Куды ім пошчакі выводзіць — лятаюць і то з цяжкасцю...

Так што не жывём — выжываем. Падцягнуўшы жываты, імкнёмся не глядзець у бок прыватных кніжна-газетных развалаў, якімі запоўнены амаль што кожны падземны пераход. Імкнемся не глядзець, хоць сляпуча яркія вокладкі, на якіх хвацка страляюць і гвалтуюць, і абуджаюць іншым разам у душы штосьці ганебнае. Тады сутаргава ламаем галовы, шукаючы практычныя шляхі самафінансавання нацыянальнай культуры. Хваравітыя задумкі наконт уладкавання начнога казіно ці арганізацыі стрыптыз-шоу на базе Саюза пісьменнікаў лопаюцца, як мыльныя пухіры, бо імгненна ўспамінаем, што любая бізнесовая справа неяк не па душы, а ад абавязкаў геданістаў-забаўляльнікаў проста ванітуе. "Паскудства, брат, і не пытайся". Потым доўга лечым душу словам...

Прайшоўся толькі па школах. Меўся быў наведаць яшчэ і бібліятэкі вайсковых частак, заводаў і прадпрыемстваў. Ці выпісваюць яны вышэйназваныя выданні (саюздрук канкрэтных адрасатаў-падпісчыкаў назваць не змог, прапанаваў толькі колькасць раённых аддзяленняў-распаўсюджвальнікаў)? Меўся, ды не адважыўся псаваць настрой напрадвесні. Калі ўжо народная асвета ў большасці сваёй аддае перавагу ў падпісцы барацьбе з грызунамі, то што казаць пра вайскоўцаў. Пры адсутнасці мецэнатаў і спонсараў, пры кволай руплівасці чыноўнікаў ад культуры дзе тая гарантыя, што ў гарнізонных бібліятэках чытаюць "Крыніцу", а не шчыруюць у першую чаргу па здабычы, скажам, салдацкіх ануч ці ружэйнай змазкі?

А птушку тую пеўчую, калі верыць Гаруну, спагадлівыя дзеткі ўсё ж з клеткі выпусцілі. Няхай, маўляў, на волі спявае. Хоць і не доўга, але гучна...

**Яўген РАГІН**

**P. S.** На ўсялякі выпадак нагадваю, што падпіска на "Полымя", "Першацвет", "Маладосць", "Крыніцу" і "ЛіМ" працягваецца.

**Я. Р.**

апрацаваў свайго "Сымона-музыку", змяніў яго канец, рашуча скінуў з Сымона раней аблытваўшую яго рэлігійную павуціну". Каб больш яскрава паказаць, як праводзілася аперацыя па выдаленні непажаданых рэлігійных элементаў, прыводжу некалькі прыкладаў, узятых у мюнхенскім выданні твора Раманам Склютам дзеля параўнання:

**Першая рэдакцыя**

***Але ў Бога вер, і Богу***
***Ты заўсёды, браце, вер...***
***Сам Бог, мусіць, для спакусы***
***Гэты край наш адзначаў...***

***Бог на то і розум даў,***
***Каб загадкі, што спрадвеку***
***Ў кнігі горныя ўпісаў,***
***Хтось рукою няўчытанай***
***І прыбіў на іх пячаць,***
***Мог ён сілай, Богам данай,***
***Адгадаць і разгадаць...***

***— Эге ж, хлопча, не забыта***
***Богам праўда на зямлі...***

***Ёсць Божае волі законы...***

***— Божа! дзе я? Што са мною?..***

***Казкі-з'явішчы дарогі!***
***Колькі мар ў далечыне!***
***Хай жа Бог цаліць вас, ногі,***
***Што вы носіце мяне!***

**Трэцяя рэдакцыя**

***Вер у бога, але богу***
***Не заўсёды, браце, вер...***
***Сам лёс, мусіць, для спакусы***
***Гэты край наш адзначаў...***

***І той розум, хлопча, дан,***
***Каб ён мог зганяць туман.***
***Што гняце яго спрадвеку,***
***І каб змог ён, позна-рана,***
***Зняць няведання пячаць,***
***А той напіс няўчытаны***
***Растулмачыць, адгадаць...***

***— Эге ж, хлопча, не забыта***
***Тая праўда на зямлі...***

***Разумныя волі законы...***

***— Тфу ты, ліха! Што са мною?..***

**Выкінута зусім.**

Скідваючы рэлігійную і нацыянальную "павуціну", новыя ўлады рабілі з адвечнага беларуса-селяніна — пралетара, "змагара за светлую будучыню, за сацыялізм", мастака, які не толькі развучыўся размаўляць на роднай мове і не навучыўся на "общепонятном" і "великом, могучем", але і стаў пагарджаць сваім найменнем — Беларус.

***Радасць Божую, светы, пазнайце...***
***Абудзіся, зямля, хвалі Бога...***
***Асвяціся і цьма, пазнай радасць...***
***Радуйся, неба — ўваскросне зямля, —***

напеўнасць гэтых радкоў не толькі пацвярджае вобразнае і сэнсавае багацце нашай мовы, але і з'яўляецца гімнам Творцу, космасу, найвышэйшай сіле, якая кіруе светам, Богу. Якуб Колас незнарок, міжволі напісаў рэлігійны гімн, які найлепей гучацьме ў храме і, узносячыся да скляпенняў, будзе абуджаць у сэрцах і душах беларусаў Веру, бо без Бога нельга зрабіць нічога. Толькі ў суладдзі з прыродай і сусветам можа жыць чалавек. Шкада, што гэтыя ісціны пачынаюць намі ўсведамляцца так позна. Але лепей позна, чым ніколі. Лепей позна, але няхай кожны беларус прачытае абедзве рэдакцыі "Сымона-музыкі" і зробіць свой выбар. Спадзяюся, што ў першым у нашай гісторыі зборы беларускай класікі, у сапраўды "залатой" бібліятэцы Беларускага Кнігазбору ў бліжэйшыя гады выйдуць абедзве рэдакцыі гэтага шэдэўра пад адной вокладкай.

**Віктар МУХІН,**
**навучэнец 4-га курса Гуманітарнага ліцэя пры БГАКЦ**

ВІНШУЕМ!

# І весні спеў нам чуецца...

## Уладзіміру МЕХАВУ — 70

Тыя чатыры гады розніцы, якімі Валодзеў дзень нараджэння аддзелены ад майго, чамусьці не замінаюць мне адчуваць яго чалавекам... літаратарам... мастаком... ды ў першую чаргу, бадай, газетчыкам... майго пакалення. Хоць ён яшчэ, бадай, размазваў манную ці якую іншую кашу па талерцы ў перапоўненым бежанцамі тылавым горадзе, калі я ў прыфрантавым лесе ўжо сёрбаў баланду з салдацкага кацялка лыжкаю, якую насіў спачатку за абмоткамі, а пазней за халявай "кірзы". Не скажу, што адчуванне ў ім творчага равесніка з'явілася ў мяне з цягам часу, калі гады самі па сабе сціраюць розніцу паміж блізкімі па ўзросце людзьмі. Цяпер мне нават здаецца, нібы мы адначасова з ім борздым узмахам рукі над галавой і па-хлапечы палкім воклічам "Заўсёды гатоў!" пацвярджалі сваю нібыта падрыхтаванасць аддаць усе сілы і нават жыццё "барацьбе за справу Леніна-Сталіна".

Ці ўсведамлялі мы сапраўдны змест нашай гатоўнасці?.. Ды не, то была не гатоўнасць наша, мы толькі падхоплівалі і наўздагон за старэйшымі аднакашнікамі паўтаралі завучаную клятву. Каб не адстаць. Не быць горшым за самага крыкліва адданага і крыкліва патрыятычнага. Каб паказаць усім, што і ты невыпадкова ў чырванагальштучных шарэнгах крочыш на піянерскі злёт.

Так-так, сёння мне здаецца, быццам мы разам з ім звонкагалоса падхоплівалі наш гімн і ў дружным хоры давалі наказ, каб сінія ночы піянерскімі кастрамі ўзнімаліся над усім белым светам.

Хтось з публіцыстаў перабудовачнага азарту абазваў такіх, як мы, — "фанфарныя падлеткі". Зневажальная мянушка? Для чужога вуха — магчыма. Толькі не для нашага з Валодзем. Гарніст у незабыўны час дзяцінства трубіў для нас зару, трубіў паход!

Фанфары, голас якіх нам выпадала падхопліваць, спявалі надта звабнымі заклікамі. Спрадвеку ж была спакуслівай мара людзей пра сацыяльную справядлівасць. А калі табе якіх дзесяць-дванаццаць гадоў, надта ж весела верыць у набліжэнне таго благаслаўлёнага часу, калі кожная кухарка зможа кіраваць дзяржавай, а з самага горшага для чалавечай душы яду — золата — будуць зроблены прыбіральні. Вядома, каб той час настаў, нам трэба як мага хутчэй на гора ўсім панам-буржуям раздзімаць рэвалюцыйны пажар...

І калі Валодзя заняў пасаду ў пасляваенным "ЛіМе", а я не адну пару ботаў стоптваў рэпарцёрам БЕЛТА... І калі ён загадваў аддзелам у "Чырвонай змене" (трэці паверх старога будынка Дома друку), а я наводзіў стыль у газеце "Сталинская молодежь" (паверхам вышэй)... І калі мы кожны паасобку і пазней у сумеснай рэдакцыйнай службе зрабіліся на многія гады лімаўцамі... Але, так яно і было: мы сумленна падхоплівалі, а падхапіўшы, усведамлялі і сапраўды надта прывабную рамантыку рэвалюцыйнага абнаўлення свету. Ад журналісцкіх вандровак пераходзілі да літаратурна-крытычнай працы, асмельваліся на першыя спробы ў мастацкай творчасці. І водгулле тых фанфар, якія так зачаравалі нас у нашыя хлапечыя гады, не змаўкае ў напісаных намі аповесцях, сцэнарыях, п'есах. Далёка не адразу мы навучыліся і ўсё яшчэ вучымся адрозніваць сапраўды чыстыя спеўныя мелодыі ад таннага пустазвонства, да якога такой ахвочай была тагачасная ідэалогія наогул і літаратура, у прыватнасці.

Фанфарныя падлеткі... А ці то не нармальна для юнака ва ўсе часы і эпохі! З якой ласкі нам... мне, сыну чыгуначнага машыніста... Валодзю — сыну рагачоўскіх рабочых (бацька — на цагельным, маці — у друкарні)... Скажыце, з якой бы гэта ласкі нам абмінуць тое, што, паводле высновы мудрэйшых, наканавана чалавеку ў грамадстве? А яму наканавана, як вядома, наступнае: калі ты ў маладосці не рэвалюцыянер па жыццеразуменні, дык значыцца ты — нягоднік; калі ж у гадах, пажылы і не кансерватар, то ты — дурань.

Гартаю кніжкі, выдадзеныя Уладзімірам Мехавым. Прыгадваю свае ўражанні ад спектакляў па ягоных п'есах "Чырвоны губернатар" і "Палёт" у Тэатры юнага гледача. Перабіраю ў памяці кінафільмы, знятыя паводле ягоных сцэнарыяў. Але, у тым, што выходзіла з-пад пяра гэтага літаратурнага рупліўца, тое фанфарнае водгулле моцна чуецца. Рамантыка рэвалюцыйных парыванняў, якімі захоплены, бывала, да фанатызму героі яго твораў, трымціць на гэтых старонках, прабіваючыся праз строгія радкі друкарскіх літар. Ды штосьці не хочацца амаль нічога тут перакрэсліваць, выкідаць "за борт сучаснасці".

Вы скажаце, маўляў, што дзеду міла, тое ўнуку гніла. За ўнукаў не ручаюся. Спадзяюся, што і ім у іхнім непазбежным роздуме аб перажытым... аб сапраўдных духоўных каштоўнасцях... аб маральнай годнасці чалавека наогул... варта часам гартаць старонкі з адгалоскамі колішніх фанфар, якія так устрывожылі і ўзрушылі свет на пачатку дваццатага стагоддзя, надаўшы яму новае аблічча, прынамсі, як той казаў, на адной шостай зямное кулі. Варта, варта...

Чаму? Навошта?

Ну хоць бы для таго, каб пазнаёміцца з вопытам храналагічна цэнтральнага пакалення грамадзян былога Саюза ССР. Пакалення, што зведала на ўласнай скуры розныя пачварныя выкрунтасы гістарычнага значэння, часта з трагічнымі наступствамі. Праўда, разумнік з ліку цёртых калачоў тут абавязкова вытыркнецца са сваім тлумачэннем паняцця "вопыту": гэта ж убогая хаціна, збудаваная намі з абломкаў таго пазалочанага мармуровага палаца, які мы насяляем сваімі зманлівымі ілюзіямі.

І праўда — ілюзій было задужа! І ў нас. У таго ж Уладзіміра Мехава. І ў ягоных герояў. Часцей за ўсё гістарычна вядомых. Зусім пэўных дзеячаў. Іхнія імёны на вуснах нашых сучаснікаў. Назаву некаторых, што займелі рэпутацыю нашых знаёмцаў, чые справы і ўчынкі, памкненні і дасягненні, памылкі і злачынствы трапляюць пад пяро і пісьменніка У. Мехава. Гэта — камісары і камандзіры Чырвоных Аніс Даўман і Станіслаў Берсан. Сям'я Інесы Арманд і вядомы чэкіст Іосіф Апанскі. Дзяржаўны дзеяч Алесь Чарвякоў і стваральнік слыннай турэмнай песні "Слухай!" Іван Гольц-Мілер. Па-юнацку неабачны замаховец на мінскага губернатара Курлова Іван Пуліхаў і беларус з фантастычнай біяграфіяй, Мікалай Судзілоўскі, які на пачатку нашага стагоддзя заслужыў пасаду прэзідэнта сената... Гавайскіх астравоў. Прыгажуня ў асяроддзі добраахвотнікаў падпольнай "Народнай волі" мазыранка Геся Гельфман і прыгонная актрыса са Шклова Марыя Азарэвіч, якой выпала ззяць сярод німф ды апалонаў на пецярбургскай сцэне. Адзін з пачынальнікаў славянскага кнігадрукавання Спірыдон Собаль з-пад Магілёва і празваны рыцарам рэвалюцыі Міхаіл Фрунзе... Ён! — Уладзімір Ульянаў-Ленін.

Біяграфічны нарыс і свабоднае літаратурнае эсэ. Дакументальны кінафільм і тэатральны спектакль. Радыёп'еса і тэлевізійны тэатр. Розныя жанры. Ды і пані Кліо прыадкрывае заслону перад гэтым пісьменнікам то амаль у нашыя дні (адважная лётчыца Галіна Дакутовіч), то ў схаванае смугой мінулае (Спірыдон Собаль — гэта ж XVII стагоддзе). І на большасці старонак чуецца, чуецца адгалосак фанфар, пра якія сказана вышэй. Багатыя і бедныя. Выхадцы з простанароддзя і патомныя арыстакраты. Чырвоныя і белыя. Нацыяналісты і інтэрнацыяналісты.



Пра большасць з тых фактаў і тых асоб, што сталі героямі твораў У. Мехава, у апошні час мы даведваемся нешта новае. Нечаканае. Супярэчлівае. Бывае, спрэчнае. Нярэдка адваротнае таму, што раней лічылася бясспрэчным у абліччы таго ж Ульянава-Леніна або ў гісторыі станаўлення беларускай дзяржаўнасці ў віхурах рэвалюцый і грамадзянскай вайны. Сам У. Мехаў па-новаму разумее сутнасць некалі адлюстраванага ім у кнігах, на экране, на падмостках. Змяняюцца раней надта ўстойлівыя рэпутацыі. На афішах — новыя назвы. Новыя імёны.

Здаецца, усеабдымная навізна пануе цяпер у мастацтве. Удумаемся: ці не этапы гэта няспыннага працэсу блукання людзей у пошуку ісціны? Блуканне, якое часта набывае поступ маршавага кроку. Наша пакаленне захапіў зусім пэўны марш, громападобны грукат якога, на шчасце, суцішыўся ў канцы стагоддзя, хаця ўціхамірыцца не збіраецца.

Я не хачу і не маю права быць суддзёй сваіх калег, сяброў, паплечнікаў і вінаваціць каго-небудзь за тое, што ён прыслухоўваецца да нанова перахрышчаных маршаў, або зацята прытрымліваецца састарэлых рытмаў. Хто не крочыць у нагу са мной, з маімі аднадумцамі, той, мабыць, арганічна ўспрымае гучанне сваіх упадабаных фанфар. Хай жа будзе дазволена кожнаму з нас ісці за той музыкай, якая бліжэй яму, яго светаадчуванню, яго сумленню!

Энергія такога блукання і такой паслядоўнасці ўласціва таленту Валодзі Мехава. Ён любіць дакументальную фактуру, цэніць дакладную храналогію, паглыбляецца ў сямейныя і грамадскія архівы, здабываючы сюжэты і герояў для сваіх твораў. У ягонага пяра — газетны разбег. Аператыўны. Пасвойму выверены. Таму ён і цяпер часцяком не забывае некалі пратаптаную сцежку да лімаўскіх палос, на адну з якіх я пішу гэтыя свае нататкі. А такі разбег, што ні кажы, можа, і да парнаскіх вяршыняў прывесці, і ў тупік загнаць. І дзе ты апынуўся, скажа толькі няўмольны ў сваёй хадзе час. Калі-небудзь...

**Барыс БУР'ЯН**

вярджэнне... заканамернасці. Так, той жудаснай заканамернасці, што існавала не адно дзесяцігоддзе. Якую б пасаду чалавек ні займаў, якой бы сферы дзейнасці сябе ні прысвяціў, ён найперш павінен быў прытрымлівацца афіцыйных поглядаў. У дадзеным выпадку афіцыйнага погляду на навуку ў цэлым і на генетыку — у прыватнасці.

Падобная дакладнасць арыенціроўкі асабліва патрабавалася ад тых, на каго ўскладаліся вялікія надзеі. А ў біялагічнай навуцы ў пачатку трыццатых гадоў такімі людзьмі былі ўжо названы Жэбрак, а таксама яго калегі Мікалай Дубінін і Трафім Лысенка. "Кожная з трох новых зорак біялагічнай навукі, — сведчыць І. Дуброўскі ў самым пачатку рамана, — знайшла ў гушчары арбіт свяціл навукі сваю арбіту, па якой яны ўздымаліся ўсё вышэй і вышэй. У кожнага з іх быў свой круг навуковых праблем. Але былі ў іх і свае прываблівыя асаблівасці. Калі Жэбрак і Дубінін рухаліся ў тым жа напрамку, як і іхнія папярэднікі і настаўнікі, то Лысенка выбраў накірунак руху па сваёй навуковай арбіце супрацьлеглы".

І знайшоў Дуброўскі ўдалае параўнанне гэтага руху ў зваротным кірунку: "Вядома, што ў космасе, у прыватнасці ў Сонечнай сістэме, планеты і іхнія спадарожнікі рухаюцца наўкруг Сонца, па візуальным вызначэнні з Зямлі — з захаду на ўсход. Так рухаецца і Месяц вакол Зямлі, так рухаюцца спадарожнікі іншых планет. Але са спадарожнікаў у планеты Нептун адзін — Трытон — рухаецца ў супрацьлеглым напрамку. Здавалася б, як можна рухацца насуперак нябеснай механіцы, але ж рухаецца. Так вось, і адна з новых трох зорак, Лысенка, парушыла звычайны ход у развіцці біялагічнай навукі. На жаль, людзі, як і прырода, спазнаюць шмат анамалій..."

Раман "Гаснуць вулканы" — найперш пра сапраўдную навуковую зорку Жэбрака і яго аднадумцу ў шмат якіх пачынаннях Дубініна, але гэта твор і пра "анамалію" — Лысенку. Часам нават падаецца, што аўтар зашмат увагі ўдзяляе гэтаму прыстасаванцу і кар'ерысту, але, па меры далейшага знаёмства з лёсам Жэбрака, з лёсам генетыкі, упэўніваешся — перакосу няма і быць не можа. Каб спасцігнуць ва ўсёй значнасці, кім быў Жэбрак, неабходна ва ўсёй паўнаце зразумець і страшную антынавуковую з'яву "лысенкаўшчыну", а гэта немагчыма без бліжэйшага знаёмства з яе асноўным носьбітам.

Добра валодаючы матэрыялам (дае знаць аб сабе і тое, што І. Дуброўскі ў свой час скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію і аспірантуру пры Усесаюзным інстытуце эканомікі сельскай гаспадаркі ў Маскве, мае навуковую ступень кандыдата сельскагаспадарчых навук), аўтар заглыбляецца і ў сутнасць тых навуковых адкрыццяў, якія дазваляюць ставіць Жэбрака ў шэраг самых вядомых генетыкаў. Гэта, аднак, не значыць, што ў творы факт, дакумент пераважаюць над мастацкасцю. І. Дуброўскі піша лёгка, свабодна, ды і ўмее належным чынам падаць багаты матэрыял. Адны загалоўкі асобных раздзелаў чаго варты?! — "Весяліцца Ціт, гуляе і паненак забаўляе", "Брава, Лысенка, брава!", "Як робяць з мухі слана і са слана муху", "Каму ёлкі, а каму палкі"...

У канцы рамана пазначаны месца і дата яго напісання: "Мінск—Іслач—Крыжоўка. 25.VI.1991 — 30.IX.1995". Нагадаем для тых, хто забыўся: нарадзіўся Ігнат Цімафеевіч 4 верасня 1906 года. Каб жа кожнаму ў гэткім узросце ды такую працаздольнасць! Каб ставала сіл няхай не на раман, дык на яркае, цікавае апавяданне. А што да рамана "Гаснуць вулканы", дык ён выйшаў у "Мастацкай літаратуры" дзякуючы падтрымцы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі: кніга выдадзена пры дапамозе фірмы "ИтБел".

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# ВЕЕРНЫЯ ГРАБЛІ

АПАВЯДАННЕ

Мікола ГІЛЬ



Васіль. — Не адпіў я мазгоў. А пра граблі кажу — не пра тыя. У Штэкера пабачыў. Веерныя завуцца.

Вера ўжо спакайней трошкі:

— І што там ужо за граблі?

— Адмысловыя граблі! Штэкер двор падграбаў — лісце апалае, іншае смецце. Дык грабе, быццам гуляючы, а чысценька — як венікам падмятае. Паедзеш у раён, дык зайдзі й купі.

— А колькі тое купіла каштуе?

Васіль сябе па сцягне — ляп рукою:

— От жа дурань, а пра цану й не спытаў! Ну але ж граблі, дорага не павінны быць. Ты зайдзі, папытай...

За першым разам Вера не купіла яму тых грабляў. На яго недаўменне сказала:

— Не буду я за балаўства сто тысяч плаціць!

Васіль таксама збянтэжыўся:

— Ажно сто?

— А ты думаў!

Прамаўчаў тым разам Васіль. Падумаў: мо і праўду баба кажа — дарагое балаўства, кусаецца. Але ж думкі пра незвычайныя граблі з галавы не выкінуў. Возьме ў рукі дзяркач за сенцамі, каб ля ганка падмесці — успомніць Штэкеравы граблі. У пуні на таку пацяруху возьмецца падграбаць — зноў успомніць. Грошы якія ў рукі патрапяць — таксама ўспомніць, бо і цана тых грабляў не выходзіла з галавы. І ўрэшце, наўздзіў самому сабе, пачаў заначку рабіць: не на курыва, не на пляшку — на граблі. І калі Вера зноў выбралася неяк у раён, падаў ёй сваю заначку і папрасіў:

— Во, сабраў сам, не з тваіх. Вазьмі і купі тыя граблі. Веерныя завуцца, не забудзь. Купі, Вера. Колькі таго жыцця, эт, хай будуць, дужа ж зайздросна чысцютка грабуць.

Вера ажно быццам з твару змянілася, але не ўзарвалася, паклала грошы ў кашалёк, адно сказаўшы напаследак:

— Ты, Васіль, як дзіця тое. Чым бы ні забаўлялася — дай яму цацку! Баюся ўжо, каб не на бяду якую табе гэтак закарцела...

І займеў Васіль лёгкія, спружыністыя веерныя граблі. Ранейшага выпуску граблі — грабалкі-дроцікі з тонкага сталёвага дроту, акурат гэткія, як і ў Штэкера, бо нехта з дачнікаў таксама купіў такія, але пазней, дык аказаліся ўжо і цяжэйшыя, і дроцікі таўсцейшыя, не сталёвыя, пругкія, а мяккаватыя, як за што зачэпяцца, то гнуцца. І радаваўся ім Васіль, як радуецца даўно жаданай цаццы тое ж, згаданае Верай, дзіця. Пускаў у работу граблі, як сам казаў, дзе трэба і дзе не трэба. А найперш грады адштукоўваў сваімі ўлюбёнымі. Так ужо меленька-дробненька разграбе, што Вера садзіць за ім буракі ці моркву ў самы што ні ёсць пух.

Прывезла Вера граблі на згоне зімы, перад вясною, а восенню, у самы лістапад, пранеслася па сяле чутка: Васіль скалечыўся Штэкеравымі граблямі. Сваімі, вядома, але такімі, як у Штэкера. Тымі, што ўпрасіў Веру купіць, не пашкадаваць ажно сотні ці нават болей тысяч. Падграбаў ён на ўзмежку лісце і зламаўся-пырснуў угору спружыністы дроцік-грабалік. І гэта ж трэба такому здарыцца — проста Васілю ў вока. Вострым кончыкам. Ды гэтак, што стала не вока, а суцэльная рана. Дачнік, які Хрысціціну хаціну купіў, папёр яго ў раён, у бальніцу — не сталі нават і "хуткай" чакаць, гледзячы на страхоцце тое...

Як казалі людзі, акурат гэтак і здарылася. Сапраўды, чысціў Васіль узмежкі. А там жа не адно лісце апалае, а і бадылле featureознае, і маліннік зламаны, і шпянькі ад збітага касою шчавука, і корань сухі з-пад смуродніка ці парэчак. Грэбаўся Васіль акуратна, не дужа выпінаючыся, ашчаджаў, бярог свае веерныя-даражэзныя, аднак жа недзе рвануў-пацягнуў на сябе цераз сілу і... пырснуў зубец-дроцік. Лопнуў і пырснуў угору. Васіль спачатку нават і недацяміў, што гэта дроцік пырснуў яму ў твар. Падумаў быў, што нейкі карэньчык з-пад грабляў пстрыкнуў яму ў вока. Акурат у вока. Ён нават грабільна адною рукою прытрымаў, другою, праваю, хапіўся за вока. І толькі пасля трошкі, калі пацяў яго пякучы боль, выпусціў граблі, абедзвюма рукамі галаву ашчаперыў.

Вера непадалёк была. Пачула, што ён войкнуў неяк дзіўна. Падбегла да яго:

— Што з табою?

Ён, не адрываючы рук ад твару, мармытнуў:

— У вока нешта...

— Пакажы!..

Разагнуўся ён, бо сагнуўшыся быў ад болю, павярнуў галаву да жонкі. Яна ягоныя рукі ад твару адняла і зніякавела: у правым воку тырчыць сцябліна нейкая, травіна, ці што. Узяла ў пальцы, выняла і толькі тады ўгледзела — дроцік сталёвы. А бо, няўжо ад яго хваленых грабляў? Хацела мацюкнуцца ад злосці: "А што я казала? Й праўда ж, на бяду!", ды прыкусіла язык, бо вока Васілёва ўжо й не вока зусім, а рана страшная. Дастала насоўку з унутранай, на грудзях ватоўкі, кішэнькі, падала Васілю:

— Прыкладзі!..

Завяла яго ў хату, прамыла вока вадою, і зноў як зірнула, дык і загаласіла: няма ў Васіля вока, нежывое яно, нейкае як пустое — няйначай выбітае.

— А Васечка, а родненькі, што ж ты нарабіў?! І нашто табе былі тыя граблі праклятыя?!. Ці ж бачыш што хаця? Чуеш, Вася, ці ж бачыш?

— Не... — Васіль не сказаў, прашаптаў знямела. Пасля гэтага роспачнага жончынага плачу раптам працяў-спаралізаваў яго страх. Апякла думка: "Не бачу!.."

Папырскала Вера ёдам шматок ваты, прыклала да вока, матузом марлі галаву Васілёву абвязала, наказала: "Сядзі!", а сама пабегла да Галі-фельчаркі — хай тая гляне, а заадно і "хуткую" выкліча, там жа, на медпункце, тэлефон ёсць. Ажно гэты дачнік, што ў Хрысцініну хату ўсяліўся, ля машыны стаіць — ці то пад'ехаў, ці ад'язджаць сабраўся. Яна да яго, а сказаць што — і не можа, зусім адсохла, як яго звацць: ці то Валодзя, ці то Сяргей, а мо і зусім Валянцін. Ды ўсё ж знайшлася:

— Сусед, мо выручыце? З Васілём маім бяда, дроцік у вока патрапіў. Баюся, без вока застанецца. У бальніцу трэба было б...

Дачнік, хай яму Бог сыціць, аказаўся дарэчным чалавекам, не стаў і распытваць, адразу ж згадзіўся:

— Аб чым разгавор! Я йшчэ й машыны ў двор не загнаў. Вядзіце свайго Васіля, пакуль я развярнуся...

Але ж хоць і хутка патрапіў Васіль у бальніцу, лічы, праз хвіліны пасля няшчасця, а і доктар нічога зрабіць не мог — застаўся Верын чалавек без вока. Ды каб жа толькі гэтак! А то ж — непакояцца дактары і за другое. Васілю пакуль нічога не сказалі, а Веру папярэдзілі: маўляў, закрануты там нейкі нерв, што можа прывесці і да слепаты левага. Яна, пачуўшы тое, ледзь не ўмлела. Спадзявалася, што ў бальніцы адратуюць і правае, а тут — на табе: пагражае слепата і леваму! Васіль — не перажыве! Яна ж яго ведае! Ён жа калі возьме што да галавы, дык капцы: не пераканаць, не адгаварыць, не ўпрасіць... Божа мой Божа, каб хоць Васіль не ўчуў, не здагадаўся раней часу...

Ды Васіль, вядома ж, дачуўся. Дабрадзеяў на свеце шмат, языкоў людзям не завяжаш. Тым больш - у бальніцы. Там жа пра болькі адно аднаго ўсе і ўсё ведаюць. Там тайны лячэбнай не ўтоіш, каб і хацеў. Не доктар, дык сястра, санітарка, прыбіральшчыца таму ці іншаму ляпне, не падумаўшы. Пасля мо і спахопіцца, прыкусіць язык, але ж слова — не верабей, не спаймаеш. А як вылеціць, дык лятае яно не само па сабе, а — ад чалавека да чалавека. Даляцела страшнае слова і да Васіля: можа аслепнуць зусім!

Вера прыехала праз дзень да яго ў бальніцу, а ён — цёмны, бы хмара. Сядзіць і маўчыць з ёю. Яна просіць і гэта пакаштаваць, і тое з'есці, вас жа тут, кажуць, кормяць абы жывы былі, не за ранейшым часам, хоць і тады кармілі не на ўбой, — а ён маўчыць, набычыўшыся. Яна здагадалася: дайшло да яго! Ды хіба ж яна пра гэта будзе? Не і не! Навошта дарэмна душу вярэдзіць? І дактары могуць памыляцца. Усё яшчэ можа быць інакай. Доктар адно сказаў, а яно, можа, на двое варожа. Можа ж, Васіль яе шчаслівейшы. Некаму не пашанцавала, а яму пашанцуе. Не, яна і блізка пра тое не будзе. Лепш пра плёткі вясковыя раскажа, пра таго ж дачніка, які яго прывёз сюды, пра тое, што зваць яго не Валянцін і не Сяргей, і не Валодзя, а Станіслаў, Стась, як ёй сказаў, што ён побач з хатаю пограб пачаў капаць, мураваны будзе рабіць, ужо і цэглы добрую клетку прывёз; лепш раскажа пра таго ж Штэкера... Не, не, пра Штэкера якраз і не будзе, гэта ж праз яго ўсё і здарылася, каб яму пуста стала, каб яго на іхнюю галаву век не было...

Васіль моўчкі слухаў жонку. Моўчкі і нерухліва. Нават і галавою не ківаў і не круціў, калі не пагаджаўся. Сядзеў моўчкі і нерухліва, бы акамянелы, і слухаў абыякава. А як яна на хвіліну змоўкла, шукаючы, пэўна, чым бы яго яшчэ забавіць, сказаў:

— Павешуся я, Вера.. Ці атручуся...

Вера здранцвела. Яна ж так і знала! Сэрца ж гэта й прадчувала! І цюкнула ёй у галаву: от дзе бяда самая страшная, немінучая!..

Чамусьці ёй не прыходзілі думкі пра тое, як яны будуць жыць, калі Васіль, не дай Бог, аслепне. І ўдзень, калі рабіла што, і ўначы, калі доўга заснуць не магла, ці сярод сну, знячэўку абудзіўшыся, ні разу не падумалася пра тое. Ну, як ён хадзіць будзе па хаце ці па двары, як апранацца, мыцца, есці будзе, як наогул усё тое будзе ў іх тады, калі гэта, не давядзі Божа, здарыцца. Адна думка асела ў галаве: Васіль сляпым жыць не будзе! Накладзе на сябе рукі! І от жа — як у ваду глядзела!..

Хапіла яго за рукі:

— Вася, ты што?! Што ты кажаш? Пабойся Бога!

— Павешуся, Вера...

Яна прытуліла яго галаву да сябе, пачала гладзіць па плячах, па спіне, прыгаворваючы:

— Вася, ну што ты кажаш? Як у цябе язык паварочваецца? Што ты ўсё пра тое думаеш? Пра лепшае трэба думаць, Васечка! Толькі пра лепшае! Пра тое, каб паправіцца, ачуняць. Дактары ж не толькі гэтыя, што тут. У Мінск паедзем, прафесару пакажамся якому... Адно — не думай пра благое! Мяне пасаромейся, дзяцей сваіх! Яны ж у нас малыя яшчэ...

І, здаецца, супакоіўся Васіль. Гаварыў ужо з ёю пра іншае. Пра дзяцей, пра гаспадарку — што яна там адна, без яго, робіць, як упраўляецца. І быццам бы спакойна, без надрыву гаварыў. Але ж бачыла, адчувала Вера — не гэтак, як раней. Нейкі ён як адлучаны і ад яе, і ад гаспадаркі, і ад дзяцей. быццам сам па сабе. Вы там — адно, а я тут — другое. Розныя палавінкі, і наўрад ці калі злучымся мы ў адно, як раней...

Вярнуўся Васіль з бальніцы інвалідам. Нейкі час з завязаным вокам хадзіў, пасля асмеліўся і без павязкі — хавайся не хавайся, што толку? Увесь жа час хавацца не будзеш. Потым і рабіць пакрысе пачаў, як і рабіў. І чарку тую браць з мужчынамі ці з хлопцамі якімі, калі надаралася, браў. Як і раней не адкідваў пракляцце гэтае, так і цяпер міма не праходзіў. Мо нават і часцей стаў прыходзіць дадому нападпітку. І Вера, тым часам, страчала яго не ў такія штыкі, як раней. Штосьці стрымлівала яе. Што? Яна і сама наўрад ці сказала б. Што займеў гэтае вусцішнае назоўе — інвалід? Не. Гэта неяк перажылося. Ёсць жа вунь і горшыя інваліды — без рук, без ног. Не дай Бог, вядома, нікому таго, што здарылася з Васілём, адно вока — не два, інакш Бог і даваў бы адно, ды што цяпер зробіш? Не ўставіш, як зуб, і не паправіш. Трэба неяк прыстасоўвацца ды жыць. Стрымлівала яе іншае. Бачыла Вера, што не пра тое думкі Васілёвы. Няма ў ягонай душы спакою, грызе яго ўсё той жа смоўж — боязь за левае вока. Гаварыць — не гаворыць, маўчыць, але ж — думае, неадчэпна думае. Ад яе яму не схавацца, паспела яго ўведаць за пражытыя гады. Ды што з таго? Як сказаць, як давесці, каб выкінуў тое з галавы?

Дакарае яго Вера, ушчувае, угаворвае, але — толькі ў думках, моўчкі. Сказаць уголас не можа. Пэўна ж і сама на ягоным месцы была б такой жа. Калі б з ёю такая бяда здарылася ды пачула тое самае, што, можа, агукнецца гэта праз нейкі час і на другім воку, — таксама ці магла б пазбыцца пачутага? Вядома ж, гэта не абы-што — вочы. Чалавек пра вочы не можа не думаць. Недарэмна ж столькі ўсяго з вокам звязана. Цемень — хоць вока выкалі... Беражы, як зрэнку вока... Дапёк, як пальцам у вока... Лепш ужо не чуць і не гаварыць, чым не бачыць. Вунь, Зінка Яскевічава — глуханямая. Немкай завуць. Дык жа навучылася і гаварыць на пальцах, і пісаць умее, і чытаць. Жыве і не шманае. І замуж выйшла за такога ж нямога, і дзетак займела, і дзеткі тыя, дзякаваць Богу, здаровенькія, нармальныя. Не, не, яна, вядома, не зайздросціць, грэх было б зайздросціць, калека тая Немка, што ні кажы, але ж — вочы ёсць, свет бачыць: і птушачку, і дрэва, і травіну зялёную, і неба сіняе, і ноч тую самую чорную, але і зорную, месячную, і ўрэшце — дзетак сваіх. А без вачэй... Не, яна б гэтакаю самаю была, толькі б пра тое і думала. Дакарай Васіля ці не дакарай, а бяда ягоная — неадлучная, заклёная бяда... Дзве дочкі, як два вочкі... А калі аднае дачушкі не стане? Ды калі бяда і другой пагражае? Ой, не кажыце, людцы!..

Не ведала Вера, як дапамагчы Васілю. Як да яго падступіцца, каб перастаў думаць ён пра тое. Нават і ў пасцелі, у хвіліны блізкасці, калі, здавалася, зліваліся яны цалкам у адно, не адважвалася яна шапнуць слоўка пра тое. Шаптала ўсё, што набягала на язык, а пра тое — не рашалася. Нават і ў хвіліны блізкасці. Бо яна ж ведае: нагадае — толькі яшчэ больш ён заўпарціцца, возьме да галавы.

Ёй жа і самой прыслепілася. Гэта ж, кажуць, калі моцна пра нешта думаеш, дык тое, як на бяду, і здараецца! Значыць, не выкіне Васіль з галавы думку пра бяду, якая пагражае яму, яго леваму воку, дык яна і сапраўды набяжыць. Каб таму доктару ціпун на язык! Як жа ў яго з таго языка сарвалася тое дурное прадказанне?! Ляпнуў і забыўся мо, а Васіля як ратаваць? Як зрабіць, каб выкінуў ён тое з галавы, каб не думаў пра благое? Да бабкі якой хіба дапасці? Дык дзе яны цяпер, тыя бабкі? І ці ўсясільныя яны зрабіць што? Яна ж во, жонка, блізкі чалавек, мо ўжо і за матку, грэх возьме, бліжэйшая, а — што яна зробіць? Дзе знойдзе тыя словы, каб — паслухаўся, скінуў з сябе насланнё, атросся ад тае навалачы? А, можа ж, і не словы тут патрэбны, а нешта іншае. Ласка, увага ці, наадварот, перажыванне, узрушэнне якое, скалананне? Хто ж ведае. Каб жа хто падказаў ёй, што зрабіць, што сказаць. Бачыць жа, разумее — нядобрае дзеецца з ім, у адзіным ягоным воку дно стала надта ж блізкім, і відаць на тым дне надта ж чорны сум, бяда чорная відаць, а зрабіць што-небудзь яна бяссільная. І дзеці, адчувае, не дапамогуць. Наташка, меншая, больш да яе, да маткі горнецца, як і заўсёды гарнулася. А Вадзік, бацькаў пястун, ужо ў тым узросце, які калючым завецца. Ён ужо і з бацькам пагыркваецца, не тое што раней, калі душа ў душу былі, калі толькі за бацькам і ўпадаў, як быццам матка яму і зусім непатрэбная. Малым бацьку на шыю штодня вешаўся, а цяпер, як у бацькі бяда, — не падыдзе. Спадылба пагляд зіць, а не падыдзе. Шкадуе, бачыць Вера, перажывае за яго, а — не прыхінецца, не падлашчыцца да бацькі.

(Працяг на стар. 14—15)

# Ролі оперныя і роля педагога



**Народнаму артысту Беларусі Анатолю Генералаву — 75 гадоў.**

**Яго творчы шлях пачаўся ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета Беларусі, куды яго запрасілі пасля заканчэння Маскоўскага інстытута імя Гнесіных. Дэбютаваў А. Генералаў у партыі Апанаса ў оперы Я. Цікоцкага "Дзяўчына з Палесся". Драматычны барытон прыгожага тэмбру і шырокага дыяпазону, тонкае і ўдумлівае пранікненне ў вакальна-сцэнічны вобраз адразу адметна вылучылі маладога спевака.**

**На працягу сцэнічнай дзейнасці Анатоль Генералаў стварыў шэраг каларытных вобразаў у беларускім нацыянальным рэпертуары. Гэта — Сцяпан у оперы А. Туранкова "Яснае світанне", Змітрок у оперы Я. Цікоцкага "Міхась Падгорны", Дзяніс Давыдаў у оперы А. Багатырова "Надзежда Дурава".**

**"Высокія прафесійныя патрабаванні да сябе і высокі інтэлектуальны ўзровень — гэта неад'емныя якасці творчага аблічча спевака", — так разважае Анатоль Міхайлавіч.**

**З вялікім поспехам выступаў А. Генералаў у пастаноўках опер рускіх кампазітараў. Высокае выканаўчае майстэрства, мастацкая выразнасць вылучалі яго працу над вобразамі князя Ігара і Дэмана, Грязнога, Шаклавітага і Томскага ў операх А. Барадзіна, А. Рубінштэйна, М. Рымскага-Корсакава, М. Мусаргскага і П. Чайкоўскага. Значнае месца ў рэпертуары артыста займалі творы заходнееўрапейскай класікі і ў першую чаргу ролі ў операх Д. Вердзі "Рыгалета", "Травіята", "Трубадур", "Атэла", "Аіда", "Баль-маскарад". І тут для яго таксама была характэрна глыбіня пранікнення ва ўнутраны свет герояў: Рыгалета і Жэрмона, графа дзі Луна і Яга, Аманасра і Рэната.**

**Анатоль Генералаў гастраляваў на многіх оперных сцэнах былога Саюза, спяваў у Польшчы, Балгарыі, Румыніі.**

**Свой багаты творчы вопыт Анатоль Міхайлавіч перадае сёння маладым спевакам. Ён — прафесар кафедры спеваў Беларускай акадэміі музыкі, дзе выкладае ўжо на працягу 22 гадоў.**

**"Вакальная педагогіка цікавіла мяне яшчэ ў той час, калі вучыўся ў Маскве, — расказвае ён. — Мая мара здзейснілася, калі я пачаў спалучаць творчую дзейнасць у тэатры з выкладчыцкай працай у Беларускай акадэміі музыкі. Вакальная педагогіка зрабілася маім другім дыханнем. Выпусціў ужо больш за 40 студэнтаў. Усе яны розныя. Былі і цяжкія выхаванцы, якія вымагалі асаблівага падыходу, іншай методы, калі выкладчык павінен быць тонкім псіхолагам".**

**Боскай ласкаю Педагог, сваім вучням Анатоль Міхайлавіч перадае высокі прафесіяналізм, сумленнае стаўленне да справы і самааддана сць у творчасці.**

**"Я ўдзячны лёсу, што вучуся ў класе народнага артыста Беларусі Анатоля Міхайлавіча Генералава, — прызнаецца асістэнт-стажор, лаўрэат Міжнароднага конкурсу Алег Кавалеўскі. — Я шчыра ўдзячны свайму педагогу за тое, што атрымаў добрую вакальную школу і акцёрскую загартоўку".**

**Сярод выхаванцаў А. Генералава ёсць лаўрэаты многіх прэстыжных конкурсаў, у тым ліку і міжнародных. Гэта салісты Беларускай оперы Марат Грыгорчык і Алег Гардынец, Рыгор Палішчук і студэнт IV курса Акадэміі музыкі Уладзімір Мароз.**

**"Усе мае творчыя поспехі, безумоўна, звязаны з Анатолем Міхайлавічам, — гаворыць Алег Гардынец. — Гэта мой адзіны настаўнік, мудры і прынцыповы".**

**Многія з выпускнікоў класа прафесара Анатоля Генералава выступаюць на оперных сцэнах блізкага і далёкага замежжа. Сёння яны ўспамінаюць свайго педагога з цеплынёй і вялікай удзячнасцю. Выканаўцы добра ведаюць, што ёсць тое, без чаго нельга дасягнуць высокага прафесійнага ўзроўню: гэта добрая вакальная школа і таленавіты педагог. Свой 75-гадовы юбілей Анатоль Міхайлавіч Генералаў сустракае ў асяроддзі сяброў, калег і вучняў, якія шчыра ўдзячныя яму і жадаюць здароўя і плённай працы.**

**Наталля ЯНКОЎСКАЯ**

ФЕСТЫВАЛІ

# Сядайма ў цягнік...

## "МІНСК-98": ПЯТЫ, МІЖНАРОДНЫ, ДЖАЗАВЫ

Каму-каму, а мінчукам, каб на гэты фестываль патрапіць, карыстацца паслугамі чыгуначнікаў не давялося. Калі яны і сядалі ў цягнік, дык толькі ў падземны. Ды і то — слова "сядалі" ніяк не стасуецца з тымі дзеяннямі-рухамі, якіх апошнім часам вымагае ад пасажыра метро жаданне ўкруціцца хаця б у які з перапоўненых вагонаў.

У фестывальнай зале было — як на пероне перад пасадкай. Асабліва змучыліся журналісты. Гэтым разам іх віталі-прапускалі, даючы неабмежаваныя магчымасці. Магчымасці скарыстаць свабоду выбару і самастойна, без аніякіх там надакучліва-ветлівых запрашэнняў, прапаноў ды падказак знайсці для сябе крэсла ў зале. Калі ўдумацца, было тут нават штосьці ад нязмушанай джазавай прыроды — гэткая імправізацыйная непрадказальнасць у вырашэнні штовячэрняй праблемы чатырох-шасці пішучых безбілетнікаў, якія, пачуваючы сябе не прадстаўнікамі шаноўных СМІ, а "зайцамі" ў тамбуры, мусілі трэніраваць свой творчы спрыт і фантазію. А раптам пашанцуе прыткнуцца ў службовай ложы, куды "посторонних не разрешается пускать"? Ці — абышоўшы канкурэнтаў, паспець дабегчы да месца ў партэры, на якое не прыйшоў чалавек з білетам?

Стоп! Гэтыя пасадачныя праблемы не вартыя такіх аповедаў. Іх стваралі не арганізатары фестывалю. Самі ж канцэрты ўрэшце настолькі ўлагоджвалі настрой, што з'яўляўся спадзеў на перспектыву. Калі, маўляў, у клубе імя Дзяржынскага і не будуць абсталёўваць "купэ для прэсы", дык да наступнага фестывалю ўжо зарэзервуюць пяток звычайных крэслаў для нас, дзівакоў, якім у адрозненне ад іншай публікі падчас канцэртаў даводзіцца працаваць, трымаючы пяро напагатове.

●

Тым, хто без пяра ў руцэ, лацвей. Сесці няма куды — можна хоць усю праграму праслухаць, падпіраючы сценку ў двух кроках ад музыкантаў, не зважаючы на час, не шкадуючы далоняў, не хаваючы дзіцячай захопленасці, нават калі на твары — пазнака пачцівага ўзросту. Меў рацыю вядучы канцэртаў Уладзімір Феертаг, сказаўшы, што на джаз сёння выпадковыя людзі не прыходзяць. Але колькі ж іх, невыпадковых, у нашай сталіцы, калі ладная частка публікі кожны вечар свядома апыньвалася ў зале на "заечых" правах, толькі б пастаяць-паслухаць!

Скіравáць увагу спанатраным у джазе слухачам было на што і на каго.

У першы ж вечар Біг-бэнд Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам маэстра Міхала Фінберга наладзіў адмысловую прэзентацыю... партрэтаў. Жывыя музычныя партрэты ўвабралі ў сябе іскрынкі таленту аўтараў ужо класічных джазавых тэм і перастваральны дар сённяшніх беларускіх джазменаў. І пачалося ўсё з вядомай п'есы Дзюка Элінгтана "Сядай у цягнік "А".

Вось ён, той няўгледны цягнік, у які селі-паселі ўсе! З палёгкай уздыхае-раскручваецца перпетуум мобіле, бягуць-ляцяць колы па бліскучых рэйках; пагойдваюцца вагончыкі на рысорах; стракатай стужкаю суправаджае рух чарада падарожных малюнкаў... Ні з чым не параўнальнае свята свінга!

Пасажыры міфічнага цягніка мелі ў той вечар багата ўражанняў. Напрыклад, атрымалі "Цюбік блюза", зрабіліся сведкамі заляцанняў "Нерашучага", азнаёміліся з "Фрагментам гучання". Перакаваліся ў дасціпнасці Валерыя Шчарыцы (труба), у мудрым май-







# Кампліменты і апладысменты

"Глядзіце, глядзіце, глядзіце!" — заклікалі гледачоў напярэдадні Новага года кіраўнікі тэлебачання, галоўныя рэдактары: 1998 год Беларускае тэлебачанне пачало новымі праграмамі і ў новай пластыка-візуальнай "пакаванцы". Дзеля цікавасці, прывабнасці і канкурэнтаздольнасці. Бо нярэдка можна пачуць: "А што там, на Беларускім тэлебачанні, глядзець? Іншыя каналы даюць больш аператыўныя навіны ад уласных карэспандэнтаў з усяго свету. І фільмы там лепшыя. І забаўляльныя відовішчы больш арыгінальныя". У БТ, тым не менш, ёсць свая "тэрыторыя" — свая краіна, свае людзі, свае праблемы. Але як зрабіць, каб тэлеаповед пра іх не быў аднастайным, сумным, шэрым, каб прыцягваў гледачоў?

Шукаючы адметнае аблічча, Беларускае тэлебачанне абнавіла "вопратку" — маляўнічае афармленне. Вядома, папулярнасць тэлепраграмы ў значнай ступені залежыць ад яе агульнага стылявога вырашэння, у аснову якога звычайна пакладзены пэўны, адзіны лагатып (зрокавы знак, пластычная формула. Гэты лагатып вар'іруецца ў элементах праграм. Падставай новага пластычнага вобраза зрабіўся бусел з распасцёртымі крыламі (у палёце). Для Беларусі з яе праблемай нізкай нараджальнасці гэта можа ўспрымацца сімвалам надзеі на адраджэнне роду, народу. Да таго ж гэта песенны, фальклорны вобраз. Але яго, вобраз белай птушкі-надзеі, мастакі спалучылі з "малым экранам", афарбаваным у чырвона-зялёны колер дзяржаўнага сцяга. Атрымаўся перагружаны сімволікай знак, які пастаянна змешчаны ў левым верхнім кутку тэлевізійнага экрана. Малы бусел на фоне тэлеэкрана спалучаецца часам з такім самым знакам у цэнтры экрана, толькі павялічаным, — калі ўзнікае буйны надпіс — "Беларускае тэлебачанне".

Гэта ўжо пластычнае падваенне таго самага лагатыпу — візуальная неахайнасць, пластычная памылка мастака тэлебачання. Дарэчы, варта было б паглядзець, як прафесійна "гуляюць" пластычнымі формамі шару, напрыклад, мастакі канала "НТВ".

Тэлегледачы прызвычаіліся да азначэння тэлеканалаў у выглядзе абрэвіятур. Тут жа падаецца малюнак, які не нясе прыкметаў Беларускага тэлебачання, але празмерна яркі, кантрастуе з пластыкай кадра, перашкаджае глядзець і ўспрымаць самыя розныя сюжэты.

Памянялася сёлета і візуальная застаўка інфармацыйных праграм "Навіны" і "Панарама". Замест статычнага ўмоўнага гарадскога фону імкліва рухаюцца вобразы: мільгаюць стылізаваныя сілуэты Францішка Скарыны, Еўфрасінні Полацкай, кадры сучасных гарадскіх вуліц, беларускага балета і г.д. Пакуль што ўсё гэта пластычна прадстаўлена вельмі невыразна, страката. Стварэнне візуальнага вобраза праграмы (а гэта вобраз Беларусі) — вельмі адказная справа. Яна вымагае высокага мастацкага густу і найдалікатнай прадуманасці кожнай дэталі. Пакуль што на БТ іх толькі шукаюць, — як, напрыклад, застаўкі перад рэкламай. Замест нязграбнай лялечнай фігуры, што сядзела пудзілам перад тэлевізарам, цяпер з'яўляюцца хлопцы ў народных строях, — самі па сабе хлопцы прывабныя. Калі ж пасля іх ідзе рэклама замежнай зубной пасты з тэкстам на англійскай мове, дык і вабныя хлопцы выглядаюць смешна, — кічава.

На тэлебачанні няма дробязяў; імі якраз займаюцца мастакі, дызайнеры, відэамайстры. Менавіта дробязі вымагаюць самай высокай прафесійнасці. Пакуль што ў застаўках да асобных праграм, у агульным стылявым афармленні зашмат стракатасці, мільгацення невыразных вобразаў, выпадковасці. А часам — і безгустоўнасці.

Разам з тым адчуваецца імкненне да абнаўлення тэлевізійнага дызайну. Яго вызначаюць дзве супрацьлеглыя тэндэнцыі; першая — калейдаскапічная. Як правіла, у цэнтры кадра нейкая назва праграмы, а вакол яе, на зрокавай перыферыі кадра, нешта блішчыць, мільгае, стварае атмасферу незразумелай пластычнай "валтузні". Другую тэндэнцыю характарызуе нерухомы, звычайна манахромны (шэра-блакітны ці іншы) фон, на якім з'яўляюцца для сваіх кароткіх выступленняў дыктары, вядучыя. Гэты фон завельмі просты, нават аскетычны, але больш стрыманы па гаме, больш культурны. І тэлеперсанажы — аблічча тэлебачання, цяпер больш клапоцяцца пра свой выгляд, пра свой вобраз: адзенне, макіяж сталі больш стрыманымі, стыльнымі.

Асабліва важна знайсці адметны стыль (як візуальны, так і жанравы) для кожнай новай праграмы. Выходзіць амаль штодня праграма "Сёння з вамі..." Яна шукае сваё аблічча, дамагаецца адметнасці. Якая ж у яе пластычная застаўка? Жоўтая мазаіка-калейдаскоп, мяняюцца лічбы — ад 9 да 1 (як пры запуску ракеты ў космас). У цэнтры кадра, чамусьці на жоўтым фоне ўзнікаюць чорныя абрысы твару. Яго зменяе твар героя — чалавека, запрошанага ў студыю. Што азначае гэтая жоўта-чорная выява? (Успомнім папулярную аўтарскую праграму Тацьцяны Ягоравай "Галерэя" (партрэты яе герояў), ці праграму "Гісторыя кахання" (фотаальбом у атачэнні віньетак) — гэта адрасныя застаўкі. А добрая, глыбокая па змесце праграма "Беларускі дом" да сёння вымагае адпаведнага афармлення — вобраза асаблівага, запамінальнага "беларускага дома".)

Праграма "Сёння з вамі..." яшчэ вымагае

ШЛЯХІ

# "Да брамы нашай беларускай"

Ефрасіння АНДРЭЕВА

Леанід ЛЫЧ

## 2. У САПЕРНІЦТВЕ З ПАЛЯКАМІ

У далейшым стваральная праца БНР па фармаванні нацыянальнай школы ўжо не магла мець такога шырокага размаху. Перашкодзіла лістападаўская рэвалюцыя ў Германіі, пасля чаго пачаўся тэрміновы вывад яе войск з Беларусі. Сюды вярталася савецкая ўлада. Добра памятаючы пра гвалтоўны разгон бальшавікамі ў снежні 1917 г. у Менску дэлегатаў Першага ўсебеларускага кангрэса, урадаўцы БНР не сталі рызыкаваць сваім жыццём і своечасова падаліся ў заходнія раёны Беларусі. Атабарыліся ў Вільні. Калі 10 снежня 1918 г. у Менск прыйшлі часці Чырвонай арміі, у ім засталіся толькі старшыня Рады БНР Я. Лёсік, яе сябры А. Уласаў, А. Смоліч, В. Іваноўскі, А. Прушынскі і яшчэ некалькі чалавек у надзеі, што знойдуць з савецкай уладай агульную мову ў пытаннях асветы.

І трэба сказаць, што на гэты раз бальшавікі ўжо не былі так варожа настроены да нацыянальнай ідэі ў сферы адукацыі. Відаць, добра ведалі, што рабілася дзеля яе пераўвасаблення ў жыццё на беларускай тэрыторыі, захопленай нямецкімі інтэрвентамі. Таму савецкая ўлада павінна была ўсяляк лічыцца з цягай народа да нацыянальнай школы, афіцыйна прызнаць права беларусаў на яе і пайсці на выкананне пэўных канкрэтных захадаў па лініі дзяржаўных органаў. Ужо 31 студзеня 1919 г. на пасяджэнні калегіі Наркамасветы БССР, на якім прысутнічаў і член Часовага Рабоча-сялянскага ўрада А. Чарвякоў, у шэрагу іншых разглядалася і пытанне аб ролі беларускай мовы ў школе. Прадстаўнік Народнага камісарыята па справах нацыянальнасцяў РСФСР (беларускі аддзел) Фёдар Турук увядзенне беларускай мовы ў навучальна-выхаваўчы працэс школ вызначыў у якасці адной з чатырох чарговых задач НКА БССР. Да такіх слоў не маглі не прыслухацца прысутныя на пасяджэнні работнікі асветы, бо ведалі Ф. Турука як вельмі эрудзіраванага чалавека (у 1915 г. закончыў Петраградскія гісторыка-філалагічны і археалагічны інстытуты), вопытнага педагога (працаваў выкладчыкам у гімназіях Менска і Масквы), грамадска-палітычнага дзеяча (з сакавіка 1918 г. загадчык аддзела Беларускага нацыянальнага камісарыята, адзін з арганізатараў Беларускага народнага універсітэта і Беларускага навуковага таварыства ў Маскве). Чагосьці адметнага па ўмацаванні пазіцый беларускай мовы ў школе Наркамату асветы БССР не ўдалося зрабіць, бо ў сувязі з утварэннем 27 лютага 1919 г. Літоўска-Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (ЛітБел) гэтым выключна важным для нашага краю пытаннем пачаў займацца (праўда, не надта эфектыўна) ужо другі орган аналагічнага прызначэння.

Апынуўшыся ў снежні 1918 г. у Вільні, урад БНР мог займацца пытаннямі нацыянальнай адукацыі толькі на тэрыторыі Віленскай і Гродзенскай губерняў, што знаходзіліся пад юрысдыкцыяй Польскай дзяржавы. Тут яна з беларускімі інтарэсамі зусім не лічылася, што вельмі добра адчувала ва ўсёй сваёй дзейнасці БНР. Неўзабаве яе ўраду давялося перабрацца ў Гародню (27 снежня), якая да верасня 1919 г. з'яўлялася сталіцаю БНР. Тут паміж дзвюма дзяржавамі разгарнулася сапраўдная барацьба за ўплыў на школьны рух. З яе часта пераможцам выходзіў польскі бок, бо праяўляў у гэтым пытанні большую энергію, меў патрэбныя сродкі ды атрымліваў вялікую падмогу ад беларускіх палякаў ці апалячаных беларусаў. А вось работнікі тэрытарыяльных аддзелаў асветы БНР, беларускія настаўнікі, бацькі вучняў часта там, дзе неабходны былі рашучыя практычныя дзеянні, шмат часу бавілі на ўсялякія размовы пра талерантнасць, плюралізм у пытаннях адукацыі, якія ўжо паспявалі вырашыць палякі. Значна ўступала апошнім у сваёй паслядоўнасці ў змаганні за нацыянальную школу цывільнае насельніцтва. Высокая ступень агрэсіўнасці палякаў у дадзеным пытанні назіралася яшчэ ў першыя гады нямецкай інтэрвенцыі на Беларусі, г. зн. да таго, як ім удалосяаднавіць сваю дзяржаву. Вынікае гэта, да прыкладу, са зместу прывітальнага адраса, які жаночы гурток з Беларусі паслаў увесну 1917 г. праз "Газету Польскую" Тымчасовай Радзе ў Варшаве: "Не адварочвайце вачэй і думак вашых ад таго няшчаснага краю (Беларусі. — **Е. А., Л. Л.**), каторы больш як сто год церпіць мукі за сваю польскасць, дзе польскасць усё больш і больш шырыцца, — ад таго люду, каторы цяпер, сярод гуку гармат і агню, стыхійна кідаецца да польскай школы (зусім не адпавядала рэчаіснасці. — **Е. А., Л. Л.**) і працягвае рукі за польскай кнігай. Ваша павіннасць дбаць не толькі пра Польшчу, але і пра Літву (Беларусь). На моцы гэтага мы звяртаемся да вас і просім: ратуйце нас! Ратуйце тую велічыню, тую найпякнейшую часціну народа! Ратуйце бацькаўшчыну Касцюшкі, Рэйтана, Міцкевіча, — бацькаўшчыну Ягелонаў".

*Працяг. Пачатак N 12*

І наша суседка на захадзе добра яе "ратавала". Там, дзе гэта толькі ўдавалася, польскія сілы цалкам перабудоўвалі на свой лад жыцця беларускія землі, што падпалі пад уладу кайзераўскіх войскаў. Ад гэтага часу Наваградскі павет, паведамляла газета "Беларускі шлях" ад 26 ліпеня 1917 г., стаў "болей польскім, чым калі б то ні было. Значная часць праваслаўных беларусаў уцякла разам з войскам расійскім... У Наваградку цяпер ёсць толькі польскія школы. Польская інтэлігенцыя Наваградка занялася таксама і справай прасветы вясковага люду ў сваім павеце. У ваколіцах Наваградка заложэна 10 школак, пакуль што толькі ў каталіцкіх вёсках". Такую палітыку зусім не ўхвалялі нямецкія ўлады, таму яны дапамагалі "садзіць у школкі ў праваслаўных вёсках вучыцялёў-беларусаў з вучыцельскіх курсаў у Свіслачы, заложаных спецыяльна для беларусаў".

Зразумела, што дзейнасць беларускіх нацыянальных навучальных устаноў сустракала яшчэ больш жорсткі супраціў з боку польскіх уладаў пасля таго, як Беларусь пакінулі нямецкія войскі. Вядомая дзеячка беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння Паліна Мядзёлка, якая з вясны 1919 г. працавала ў Гародні інструктарам беларускіх школ, пазней прыгадвала: "У Беластоцкім і Бельскім паветах польскія інспектары заявілі беларускім настаўнікам, што ў школы могуць быць назначаны толькі тыя настаўнікі, якія скончылі польскія настаўніцкія курсы. У Сакольскім павеце пазакрывалі ўсе беларускія школы, а настаўнікам беларусам сказалі: "Едзьце ў сваю Беларусь, калі яна дзе ёсць, а тут не дазваляем вучыць дзяцей на беларускай мове". У Будславе закрылі беларускую гімназію. Дайшла чарга і да беларускай школы ў Гародні на Сафійскай вуліцы. 15 верасня 1919 года з'явіўся ў школу інспектар Вазнякоўскі з некалькімі пасобнікамі і без папярэдняга паведамлення і загада заняў памяшканне для польскай жаночай гімназіі "сясцёр-самарыцянак" (манашак). Захапілі ўсю мэблю і школьнае абсталяванне, абвясціўшы ўсё гэта "жондовой (дзяржаўнай — **Е. А., Л. Л.**) уласнасцю". А калі нашы настаўнікі паспрабавалі пратэставаць, абараняць нават сваю ўласную маёмасць — разам з грубай салдацкай лаянкай пайшлі ў ход кулакі супраць настаўнікаў. Беларускі настаўніцкі саюз і школа пераехалі ў дом на Палявой вуліцы, 8".

15 ліпеня 1919 г. Паліну Мядзёлку і шэраг іншых актыўных змагароў за беларускую школу палякі арыштавалі і зняволілі ў турму.

Ураду БНР не раз даводзілася выступаць з самымі рэзкімі пратэстамі на адрас польскіх уладаў за іх адкрытую антыбеларускую палітыку ў галіне асветы. Такая зусім апраўданая прынцыповасць дзяржаўных органаў БНР на сваёй уласнай тэрыторыі вельмі падабалася народу і асабліва настаўнікам, рабіла іх больш смелымі і рашучымі ў развязванні гэтай лёсавызначальнай для беларусаў праблемы. І яна пакрысе развязвалася, нягледзячы на ўсе перашкоды аб'ектыўнага і суб'ектыўнага характару. Стан народнай адукацыі 1919 г. на тэрыторыі Беларусі, што пазней ўрады суседніх дзяржаў аддадуць Польшчы, так выглядаў у статыстычным вымярэнні: беларускамоўных школ мелася каля 500, гімназій — 5 (у Вільні, Радашковічах, Наваградку, Клецку і Нясвіжы), настаўніцкіх семінарый — 2 (у Барунах і Свіслачы).

Не замірала праца па стварэнні нацыянальнай сістэмы адукацыі на той частцы Беларусі, што ўваходзіла ў склад Літоўска-Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Праўда, асаблівай увагі вырашэнню дадзенага пытання яе ўлады не надавалі. Не раз здаралася, што актыўнымі змагарамі за беларускую нацыянальную асвету выступалі не проста якія-небудзь надзеленыя паўнамоцтвамі адпаведныя афіцыйныя органы і ўстановы, а самі настаўнікі. Без усялякіх ваганняў падтрымаў гэтую прагрэсіўную ідэю агульны сход настаўнікаў менскіх беларускіх школ, што праходзіў 11 мая 1919г. У яго рэзалюцыі запісана: "Хто з 1-га верасня 1919г. з тых беларускіх настаўнікаў і настаўніц школ, якія будуць лічыцца ў беларускіх школах да таго часу, не зможа весці навуку ў школе па-беларуску — чытаць і пісаць, граматычна — гаварыць з дзецьмі і цёнгле паміж сабой толькі па-беларуску, хто не будзе знаць літаратуры беларускае і граматыкі і гісторыі Беларусі, — той павінен сам прасіць да таго часу пераводу ў вялікарасейскія ці іншыя школы, іначай ён будзе звольнены Саюзам беларускіх настаўнікаў з беларускае школы 10 верасня 1919 года".

Сацыяльная база, на якую ўрад БНР абапіраўся пры стварэнні і развіцці нацыянальнай сістэмы адукацыі, значна пашырылася пасля таго, як ён змог перабрацца ў верасні 1919 г. у Менск, які савецкая ўлада вымушана была пакінуць 8 жніўня таго ж года, не стрымаўшы напору польскіх легіянераў. Ідэю нацыянальнай школы БНР, як зазначалася вышэй, удалося зрабіць вельмі папулярнай на Меншчыне яшчэ ў першыя месяцы сваёй дзейнасці. У гэтай ідэі шмат шчырых прыхільнікаў мелася і цяпер. На іх больш за ўсё і абапіраўся ўрад БНР. Важна адзначыць і такі станоўчы ў яе практыцы фактар: імкненне любой цаной схіліць на бок беларускай нацыянальнай ідэі і прадстаўнікоў этнічных груп нашага краю. Так, у 1919—20 н. г. у першай Віленскай беларускай гімназіі (дырэктар Міхаіл Кахановіч) працавалі 34 педагогі. Сярод іх украінцы Аляксандр Дмахоўскі, Вячаслаў Машчэнскі, расіянка Фаіна Мікуліна, літоўская татарка Алёна Піатровіч, немцы Адвард Клейн і Юліяна Мэнке, паляк Язэп Арлоўскі, яўрэй Майсей Абрамовіч. Ёсць факты, што на курсы беларускай мовы даволі часта прасіліся асобы рускай нацыянальнасці. 15 лістапада 1919 г. з такой заявай у Беларускую школьную раду Меншчыны звярнулася Ксеня Панафідзіна, якая ў 1918 г. закончыла 8 класаў чацвёртай Маскоўскай жаночай гімназіі, была вольнай слухачкай настаўніцкіх курсаў, арганізаваных Менскім павятовым аддзелам па адукацыі.

Іншым часам, хаця і праз вялікія намаганні, ураду БНР удавалася штосьці выбіць і ў польскіх акупацыйных уладаў. У паасобных выпадках, да прыкладу, яны бралі на сябе хоць часткова выдаткі на стварэнне беларускай нацыянальнай асветы. 16 снежня 1919г. у адпаведнасці са складзеным актам імі было перададзена Беларускай школьнай радзе Меншчыны для арганізацыі курсаў па беларускай мове і беларусазнаўстве 100 тыс. марак.

Належная ўвага ўрадам БНР надавалася ўдасканальванню самой сістэмы кіравання народнай асветай, без чаго марным было б разлічваць на яе жыццяздольнасць. У многіх адносінах плённай у 1919—1920 гг. была праца Цэнтральнай Беларускай школьнай рады і Беларускага настаўніцкага саюза. За гэты сціслы тэрмін яны паспелі скласці праграмы для пачатковай школы. Кожная з іх мела адзін агульны ўступ з назвай "Беларуская нацыянальная школа", у якім даволі пераканаўча абгрунтоўвалася велізарнае значэнне менавіта такой, а не якой-небудзь іншай, чужой для беларуса па змесце і мове школы. Вось некаторыя вытрымкі з уступнага артыкула: "Беларускаму народу патрэбна свая, нацыянальная школа. Абудзіць масы народа ад застою, заклікаць іх да разумнага грамадзянскага жыцця, да культурнай творчасці, — можа толькі нацыянальная школа. Нацыянальнае выхаванне аздараўляе і асвяжае народныя сілы, выкрывае схаваныя здольнасці народа, нясе яму духоўную моц, багаціць думку, правільна развівае яго розум".

Нацыянальная адукацыя, як вядома, уключае ў сябе шмат прынцыпова важных кампанентаў, аднак на першае месца ва ўступным артыкуле ставілася ўсё ж родная мова: "Асноваю нацыянальнае школы служыць родная мова — адзнака нацыі, яе духоўны твар... Пакуль жыве мова, датуль жыве і народ, датуль і нацыянальнае выхаванне будзе мець вялікую вагу і значэнне. (...) Той, хто будуе школу з чужою моваю, робіць праступак такі, якому па велічыне няма роўнага... Мова зліваецца з першымі дзяціннымі ўяўленнямі, кіруе развіццём дзіцяці. Нармальна развітае дзіця не можна ўявіць без роднай матчынай мовы. Матчына мова ляжыць у мінулым дзіцяці, яна звязана з першымі дзіцячымі перайманнямі, рухамі. Без калецтва душы і розуму дзіцяці ніяк не можна адабраць ад яго родную мову".

Складзеныя Цэнтральнай Беларускай школьнай радай і Беларускім настаўніцкім саюзам праграмы адыгралі важную ролю ў станаўленні нацыянальнай сістэмы адукацыі, садзейнічалі правільнаму вызначэнню месца роднай мовы ў навучальна-выхаваўчым працэсе і галоўнае — былі падтрыманы педагагічнай інтэлігенцыяй. Пачалася нечуваная для ўсіх папярэдніх гадоў велізарная, маштабная праца на ніве беларускай нацыянальнай асветы. У гэты прагрэсіўны працэс удалося ўключыць шырокі настаўніцкі актыў як горада, так і вёскі. З мэтай аказання практычнай дапамогі мясцовым уладам і педагагічнай інтэлігенцыі ў стварэнні нацыянальных школ Беларуская школьная рада Меншчыны рэгулярна высылала ў паветы сваіх работнікаў і найбольш актыўных, нацыянальна-самасвядомых настаўнікаў. У сакавіку 1920 г. яна паслала ў Лепельскі павет настаўніка Пятра Прышывалку. У выдадзеным яму дзеля гэтага пасведчанні старшыня Рады А. Смоліч прасіў усе вайсковыя і цывільныя ўлады дапамагаць стварэнню школьных радаў і беларускіх школ. І сетка іх шырылася ва ўсіх паветах Беларускай Народнай Рэспублікі.

Органы народнай асветы на месцах, кіраўнікі беларускіх школ рабілі ўсё, што толькі было ў іх сілах, каб у такіх навучальных установах нацыянальным інтарэсам народа адпавядала не толькі мова, але і сам змест навучання і выхавання. Для паўнаты адукацыі, усебаковага, гарманічнага развіцця дзяцей беларускіх школ адпаведныя органы і ў той цяжкі час пайшлі на ўключэнне ў навучальныя планы такіх прадметаў, як спевы і маляванне. У першай, шостай і сёмай вышэйшых беларускіх пачатковых школах г. Менска спевы выкладаў добра вядомы кампазітар і педагог Уладзімір Тэраўскі. З імем гэтага беларускага культурнага дзеяча звязана ўзнікненне ў 1914 г. у Менску аднаго з першых харавых калектываў, рэарганізаванага ў 1917 г. у Беларускі народны хор. У створаным у тым жа годзе ў Менску Першым таварыстве беларускай драмы і камедыі ён узначальваў музычную частку. Несумненна, толькі добра разумеючы гістарычную ролю нацыянальнай адукацыі ў лёсе беларускага народа, У. Тэраўскі мог пагадзіцца стаць выкладчыкам спеваў у менскіх пачатковых школах.

Урад БНР, яго органы народнай асветы ў цэнтры і на месцах ніколі не зводзілі сваю дзейнасць толькі да беларускай нацыянальнай адукацыі. Яны клапаціліся аб тым, каб мелі магчымасць вучыць сваіх дзяцей у роднай мове і розныя этнічныя групы, што жылі на беларускай зямлі. І пэўныя зрухі былі ў правядзенні такой інтэрнацыяналістычнай палітыкі. Так, напрыклад, у лютым 1920 г. у Баранавіцкім павеце нацыянальная структура школ мела такую характарыстыку: польскіх — 85, рускіх — 67, беларускіх — 37. Заслугоўвае быць адзначаным, што па жаданні саміх дзяцей рускіх школ тут выкладаліся беларуская мова і літаратура. У польскіх школах такога не назіралася. І прычына была не ў дзецях, а ў польскіх уладах. У данясенні школьнага інструктара Баранавіцкага павета Сцяпана Шыманскага ў Менскую беларускую школьную раду ад 17 лютага 1919г. паведамлялася: "Многа яшчэ можна было б адчыніць у павеце беларускіх школ, бо ўсе сяляне надта жадалі і жадаюць мець родную школу ў сваёй вёсцы, но што зрабіць, што і просьбы былі не чутны і не цікавы тым, хто павінен быў іх чуць. Як цяжка на сэрцы мне слухаць жальбу бедных сялян, дзеці каторых засталіся ўжо пяты год без навукі, але памагчы ім усім я не змог, хаця за кожную, якую адчыніў школу, прыходзілася змагацца як толькі магчыма было, чуючы не раз словы "будзеце арыштаваны, калі хаця б адно слова будзе сказана аб школе". На просьбы сялян пазволіць адчыніць беларускую школу было заўсёды адмовай: "няма беларускіх ксёнжак", а на просьбы пазволіць адчыніць сваекоштную было адмовай: пачакайце, прыедзем на тым тыдні, а пасля новага года адмова ўсім адна: "ужо позна, больш школы не адчыняюцца".

*(Працяг на стар. 14—15)*

## У зборы твораў украінца

**У Саюзе пісьменнікаў Украіны адбылася прэзентацыя чатырохтомнага "Збору твораў" вядомага пісьменніка Аляксандра Дэкі.**

**Цікавая гісторыя з выхадам яго ў кіеўскім выдавецтве "Поўдзень".**

**На Чарнігаўшчыне ёсць Барзнянскі раён. У мінулым стагоддзі на гэтай зямлі ў розны час жылі, сустракаліся многія славутыя пісьменнікі. Сярод іх Т. Шаўчэнка, М. Гогаль, В. Забіла, П. Куліш, Л. Глібаў, Я. Грабінка, М. Марковіч, Н. Кукальнік і інш. Тут яны вялі смелыя развагі пра лёс роднай Украіны, яе мовы, літаратуры. Гэта непакоіла чыноўніка царскай Расіі. Пра многае з гэтага не хацела сказаць і савецкае літаратуразнаўства. Выкладчыка ўкраінскай літаратуры і мовы А. Дэку папрасілі са школы — занадта многа расказваў вучням пра тое, чаго няма ў падручніках і што непрадугледжана школьнай праграмай. Настаўнік ідзе на завод, працуе падсобным рабочым, слесарам. У выхадныя дні сядзіць у бібліятэках і музеях Чарнігава, а ў час водпускаў едзе ў дзяржаўныя архівы і бібліятэкі Масквы, Ленінграда, Кіева, Адэсы, Львова, Харкава, Ніжняга, Камянец-Падольска. Бывае на Барзняншчыне. Ніхто яго туды не пасылае, ніхто не выдае камандзіровачных. Так было на працягу многіх год. Былы настаўнік адшукаў многія малавядомыя старонкі гісторыі ўкраінскай літаратуры, напісаў пра гэта дзве дакументальныя аповесці "Салаўі спяваюць на світанку" і "Жураўліны запеў". Кніжкі надрукавалі, але — "скарацілі" амаль напалову. Вядома, не па волі аўтара.**

**На абарону знявечаных твораў А. Дэкі сталі вядучыя ўкраінскія пісьменнікі Алесь Ганчар, Юрый Збанацкі, Іван Драч, Ліна Кастэнка і інш. Толькі ў час перабудовы адкрылі А. Дэку дарогу ў творчы саюз. Надышоў час, калі з'явілася магчымасць надрукаваць аповесці без скарачэнняў, але — не стала ў выдавецтваў грошай.**

**Знайшліся спонсары ў Барзнянскім раёне. Хапіла грошай выдаць не толькі дзве "скарочаныя" кніжкі, а нават "збор твораў" у чатырох тамах, куды ўвайшла і мастацкая проза пісьменніка. Адна з аповесцей "Палеская прэлюдыя" — украінскага і беларускага Палесся.**

**Асобны том змяшчае пераклады А. Дэкі. Сярод іншых ёсць там і творы беларускай літаратуры: аповесці Галіны Васілеўскай "Малюнак на снезе" і Алеся Махнача "Дзеці крэпасці".**

**Чатырохтомнік выйшаў у цвёрдай вокладцы накладам чатыры тысячы асобнікаў.**

**Ал. АЛІН**

## У "Вясёлкі" прэм'ера



**Прэм'еру спектакля "Новыя прыгоды Дзюймовачкі ў старой казцы Андэрсена" на віцебскай сцэне ажыццявіла кіраўнік дзіцячага ўзорнага тэатра "Вясёлка" Палаца культуры чыгуначнікаў Ала Кузняцова.**

*На здымку: сцэна са спектакля.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

# ВЕЕРНЫЯ ГРАБЛІ

*(Працяг. Пачатак на стар. 8—9)*

І Васіль раптам, праўда, яшчэ да бяды сваёй, быццам адчуў гэтую сынаву адчужанасць, і таксама да яго не гэтак, як раней. Ужо быццам трошкі як да дарослага, без цялячых пяшчотаў. Ну, яно ж вядома — шаснаццаты йдзе хлопцу, ужо за дзеўкамі ці не ўсур'ёз бегае. Праўда, саромеецца яшчэ, вернецца дадому пад раніцу, дык і яе бянтэжыцца, і бацьку на вочы стараецца не трапляцца, як кот нашкодзіўшы. Дык дзе ж тут ужо будзе тая ранейшая, чыста дзіцячая пяшчота? Яна, ягоная сённяшняя пяшчота,ужо некаму іншаму прызначана. няйначай, Людзе Верамеевай, — гэта ж за ёй, даходзіла да Веры, упадае іх Вадзік...

Вось гэтак думае Вера, робячы што, ідучы куды, і не знаходзіць рады, як дапамагчы Васілю. А ён робіць выгляд, што не заўважае яе трывогі, стараецца быць бесклапотным і нават вясёлым. Мо і ў чарку праз гэта зазіраць стаў часцей, чым раней. Ды толькі — хіба ён яе падмане? Не, жонку аніякі мужык не падмане, калі толькі яна жонка, а не так сабе, прыжывалка пры ім.

І нездарма балела душа Верына, нездарма мучылася благімі прадчуваннямі; кепска стала Васілю. Не прызнаўся спачатку, што напрарочаная бяда папраўдзе прыйшла да яго. Не прызнаўся, бо нават і не злякаўся, калі адчуў, што з вокам, яго здаровым вокам, нешта не тое. Тым больш, што пачалося як бы і не з вока. Аднойчы яго неяк быццам убок павяло. Як быццам перад тым ён на адной назе пакруціўся і галава ад гэтага пайшла кругам. Пасля тыя кружэнні пачасцелі, прытым надараліся без дай прычыны. От як быццам нейкае памутненне хвілінае ў галаве, і яго гэтак павядзе, павядзе ўбок. На хвіліну ўсяго, на міг адзін. Гэта — спачатку. А пасля — як быццам вока мутнець пачало. От быццам сляза няпрошаная знячэўку на яго ўскоціцца. Машынальна махне рукой, пратрэ — усё добра, як і след. Ды праз нейкі час — зноў тая бясследная сляза набяжыць. Ён і зразумеў: гэта — тое, пра што доктар казаў. І мо таму, што неадхільна, з дня ў дзень чакаў гэтае бяды, ён нават ужо і не спалохаўся. Няйначай — звыкся. Маўляў, гэтага і трэба было чакаць, інакш і не павінна было быць. Доктар слоўца "можа" знарок сказаў, каб не надта даймаць яго будучаю бядою. Ну, яны ж, дактары, гэтак заўсёды, не кажуць хворым усяе праўды, хіба толькі сваякам адкрыюцца. А гэты, пэўна, і Веры праўды не сказаў, бо — не падобна на тое, што яна не шчыра ўпрошвала яго не думаць, выкінуць з галавы дурныя думкі. Не, Вера праўды не ведала, яна шчыра спадзявалася, што абміне яго бяда, і таму старалася дапамагчы яму, усяляк намагалася аблегчыць ягоную душу. Ды толькі лягчэй яму ад гэтага не рабілася.

Зрэшты, ён, калі папраўдзе, дык не надта і зважаў на тое. Ён даўно змірыўся з бядою, якая гэтак раптоўна і гэтак нечакана вызначыла ягоны лёс. Акурат — вызначыла лёс, бо ён жа адразу сабе сказаў: жыць сляпым не будзе! Шкада, вядома, што гэтак павярнулася ягонае жыццё, ды — нічога не зробіш, чалавек, мусіць і праўда не сам выбірае свой лёс, а жыве гэтак, як наканавана. Кім — невядома. Можа, Богам, а можа, і д'яблам, сатаною. Гэтага ніхто не ведае і ніколі, пэўна, не ўведае. Сябе Васіль не шкадаваў. Даўмеўся, зноў жа, да гэтага сам: шкадуй — не шкадуй, а калі планіда такая, дык што з таго шкадавання. Планіду сваю не абыдзеш і не аб'едзеш. Вунь колькі людзей паўмірала ў маладым веку. Вунь колькі на войнах тых палегла зусім хлапчукоў, во, амаль у такім веку, як Вадзік іхні. А ён жа, дзякаваць Богу, трошкі пажыў. Перакулілася на пяты дзесятак. Трошачкі, але — на пяты. Дык і бацька ягоны амаль столькі ж пажыў. А тады ж, як паміраў, не выдаваў Васілю маладым. Колькі ёсць, столькі ёсць... А вось Веры шкада. Хто ёй паможа? Брат яе, Грышка? Не паможа Грышка, бо і сам сабе рады даць не можа. Гультай і балабон ён. І наогул — архаравец. Дзень пражыў — і добра. Не, ён не дапаможа. А бабе адной з гаспадаркай — не дай Бог. За ўсім прыглёд патрэбны. Бо не прыгледзь — дык і пайшло-паехала, адно за адным. Там — падмурак трэсне, там — плот паваліцца, там — падваліна падгніе, комін пацячэ, ланцуг на калаўроце парвецца. Сама баба не зробіць, а каго папросіць? Калі і дапросіцца, дык дзе платы тае набярэцца? Вадзік падрастае, але, можа, вучыцца пойдзе... Не, што ні кажы, а шкада Веры. Запекаю баба будзе, без пары-часу счахне, счэзне... І дзяцей шкада. Найперш — Наташкі. Вадзік ужо не павінен прапасці. Хлопец і галаву мае, і сілу, мо знойдзе дарогу. Даўно казаў: у інстытут меціць, у радыётэхнічны, на электроніку. Мо і ўб'ецца. Што-што, а задачкі розныя яму лёгка даюцца, лягчэй, чым мова і чытанне. А Наташка — малая яшчэ, ёй бацька яшчэ патрэбны, хоць яна і мамчына дачушка. Мамчыным дачушкам бацька, пэўна, патрэбны больш, чым каму. Каб мамка канчаткова яе не сапсавала, не запесціла, каб дзеўка рукастаю вырасла, а не паняю-беларучкаю... Ды неяк жа будзе. Вера яго — не з дурнейшых баб, глупства вялікага не наробіць, так што неяк будзе. Жывуць жа ўрэшце бабы адны, і вельмі многія бабы...

Аднак жа, хоць і думаў гэтак, а лячыцца Васіль паехаў. Ужо ў Мінск, да прафесара. Ездзіў туды не раз і не два. Глядзелі яго і прафесар, і прафесарка, і лячылі, і клалі на аперацыю, ды рады даць не змаглі: слепнуў Васіль. І ўсё паўтараў фразу, пачутую там, у мінскай бальніцы, ад аднаго хворага, суседа па палаце, інтэлігентнага чалавека, які разумеў: "он очень ученый дядя, но все-таки он дурак..." Васіль не надта разумеў, каго, якога "дзядзі" гэта тычылася, але нечым фраза яму спадабалася. Ён спалучыў у сваім уяўленні яе з прафесарам, які ўсё яго супакойваў і ўгаворваў не кідацца ў роспач, спадзявацца на лепшае. Акурат, як ягоная Вера... Зрэшты, можа быць, словы пра "вучонага дзядзю" Васіль найперш адрасоўваў ці не самому сабе. Чамусьці бачыўся яму за гэтымі складнымі, як радок з верша, словамі нейкі патаемны, глыбінны сэнс. Быццам прыдатныя яны былі для ўжытку ў самых розных, усякіх жыццёвых выпадках. Ну от хоць бы дапасаваць іх да ягонага жадання купіць тыя веерныя граблі: захацеў "вучоным дзядзем" стаць, як Штэкер, а выйшла, што ён самы звычайны дурань.

Лёс, між тым, сапраўды яго не пашкадаваў: Васіль аслеп. Суцяшалі яго, што слепата, можа быць, не канчатковая, што ўсё яшчэ можа скласціся для яго шчаслівей, але... Ён ужо не верыў у тое ні на грош. Няхай сабе ён і праўду дурань, але хапае яго на тое, каб зразумець: чаго няма — таго нямашака. Нават вунь песенька харошая ёсць пра гэта: "Няма таго, што раньш было..." Няма ў чалавека нагі ці рукі, тае, што матка з бацькам далі, дык нават і сам Бог не прышые. Слепата — тое ж самае: новае вока ніхто не ўставіць! І ўсведамленне гэтага канчаткова супакоіла яго. Хтосьці ўсё ж захацеў паставіць на ім крыж, не даць дажыць да старасці. Адмерана яму прыкладна столькі ж, колькі і бацьку. Што ж, няхай будзе гэтак. Ён

# "Да брамы нашай беларускай"

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

Зацятым праціўнікам беларускай нацыянальнай адукацыі быў школьны інспектар Гарадзенскага павета Вазьнякоўскі. Пра яго дэструктыўныя дзеянні пісаў у сваім лісце ад 3 красавіка 1920 г. у Цэнтральную беларускую школьную раду старшыня Рады беларускага вучыцельскага саюза Гарадзеншчыны Дзекуць-Малей. Непрыняцце Вазьнякоўскім ідэі беларускай школы праяўлялася ў адкрытай агітацыі супраць яе, у затрымцы і ўстанаўленні вельмі нізкіх памераў акладаў для настаўнікаў беларускіх школ, дрэнным забеспячэнні іх вучэбнымі дапаможнікамі, мэбляй і інш., у патрабаванні слаць яму дакументы толькі на польскай мове.

Праціўнікі беларускай нацыянальнай адукацыі і мовы засядалі і ў Менскім магістраце. Сам кіраўнік асветы магістрата Паўлюць сістэматычна адмаўляўся прымаць ад беларускіх школ паперы, складзеныя па-беларуску, што выклікала вялікі пратэст у настаўніцтва. Давялося звярнуцца па дапамогу да Беларускай школьнай рады Меншчыны, якая аб усім гэтым паведаміла ў сваім лісце ад 5 траўня 1920 г. кіраўніцтву Менскага магістрата. Справа не змянілася да лепшага, што вынікае з ліста той жа рады ад 21 чэрвеня 1920 г. на імя начальніка Менскай акругі. Копія ліста была паслана таксама акружному школьнаму інспектару, 2-му аддзелу штаба польскай 4-й арміі. У ім паведамлялася, што цяпер Паўлюць робіць "у беларускіх школах новыя апросы бацькоў аб тым, у якой мове яны хочуць, каб выкладалася ў школах навука. Пры гэтым, выкарыстоўваючы цемнату масаў, вядзець разлошчаную агітацыю сярод бацькоў проціў беларускай мовы ў школах на карысць школы польскай і расейскай... Настаўнікам жа беларускіх школ пад страхам звальнення п. Паўлюць забараніў тлумачыць бацькам мэты апросу і змест пытанняў, якія ім п. Паўлюць прапануе ў час гэтых апросаў". Беларуская школьная рада Меншчыны прасіла начальніка Менскай акругі спыніць "такую шкадлівую для школьнай справы чыннасць п. кіраўніка асветы Менскага магістрата... скасаваць усякія апросы бацькоў у беларускіх школах, як далёка не задавальняючы ўсіх патрэбаў беларускай люднасці..." Заяўлялася, што лік беларускіх навучальных установаў "не можа быць зменшаны, асабліва на карысць чужой для беларусаў расейскай школы.

б) усялякія апросы бацькоў павінны весціся гэтак, каб была гарантыя праўдзівага і свядомага выяўлення волі люднасці; гэткім спосабам і былі ўвосень мінулага года праведзены апросы ўва ўсіх школах, зацверджаныя пасля Інспектарыятам;

в) змяняць штогод выкладовую мову школы абсалютна недапушчальна з педагагічнага боку;

г) тым часам, як вышэйшыя прадстаўнікі ўлады запэўніваюць аб сваіх прыхільных адносінах да беларускай школы, не можа кіраўнік асветы Магістрата, карыстаючыся аўтарытэтам гэтае ўлады, весьці барацьбу проціў беларускай школы. Гэты аўтарытэт улады павінен быць ад п. Паўлюця адабраны".

У цэлым непрыхільнае стаўленне польскіх акупацыйных улад да ўсяго таго, што рабіў урад БНР па стварэнні нацыянальнай сістэмы адукацыі, істотна тармазіў вырашэнне гэтай лёсавызначальнай для беларускага народа праблемы. Але яна ўсё ж вырашалася, бо ў гэтым былі вельмі зацікаўлены апантаныя ідэяй беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння палітыкі, грамадскія дзеячы, навукоўцы, педагогі, у якіх, на вялікае шчасце, недахопу тады не адчувалася. У час, калі ў нашым краі панавалі палякі, функцыянавала больш за 300 беларускіх пачатковых школ, Гродзенская, Дукорская, Заслаўская і Ракаўская прагімназіі. У самім Менску іх было тры, прычым дзве жаночыя. У 1919 г. пачаліся заняткі ў Віленскай беларускай гімназіі, у чым самая вялікая заслуга знанага беларускага палітычнага дзеяча і навукоўца Івана Луцкевіча. Актыўна супрацоўнічалі з ім у гэтым адданыя ідэі нацыянальнай адукацыі М. Кахановіч, Юліяна Мэнке (немка па паходжанні), А. Сакалова-Лекант, А. Станкевіч, Л. Чарняўская. Праўда, паводле распараджэння польскай акупацыйнай адміністрацыі, давялося перад самым пачаткам 1919-20 навучальнага года закрыць Будслаўскую беларускую гімназію, што выклікала бурны пратэст сярод насельніцтва. Такі лёс пагражаў і Слуцкай беларускай гімназіі, аднак ёй усё ж удалося прадоўжыць сваю дзейнасць.

Не спыняў яе і Менскі беларускі педагагічны інстытут (МБПІ), хаця ўмовы для працы былі вельмі неспрыяльныя. Яго асноўны будынак разам з усёй мэбляй самачынна захапіў 5-ы палявы шпіталь польскай пазнаньскай арміі. Узамен інстытуту выдзелілі два невялікія пакоі ў памяшканні былой Менскай духоўнай семінарыі. Дзякуючы намаганням педагагічнага калектыву і найперш за ўсё самога рэктара МБПІ Вацлава Іваноўскага, пазней гэтай навучальнай уста-

ЗАДЫЯК

**З астрапсіхолагам Вольгай Ібрагімавай, дырэктарам астралагічнага цэнтра "Калагія", мы ўжо знаёмілі чытачоў. Сённяшняя публікацыя — працяг і паглыбленне нашага знаёмства. Мы не ведаем, ці стане гэты матэрыял пачаткам цыкла, але пераканаааны: прачытаць яго карысна як тым, хто нарадзіўся ў сакавіку-красавіку, так і ўсім, хто спавядае "прынцып Овена" незалежна ад астралагічнага знака.**

# Касмічны прынцып Овена

**ОВЕН** — сімвал пачатку. Гэта тая першая прыступка, з якой пачынаецца абсалютна ўсё. Калі вам захацелася есці, вы ідзяце ў прадуктовую краму ці берацеся за прыгатаванне ежы. Калі вам спатрэбілася веданне замежнай мовы, вы тэрмінова пачынаеце шукаць падручнікі або запісваецеся на курсы. Калі вы надумалі ставіць фільм, то перш выбіраеце сцэнарый, потым падбіраеце акцёраў на ролі. Каб дасягнуць якойсьці мэты, трэба пачаць дзейнічаць, укладваць намаганні. Овен — гэта стартавая прамая, пачатак шляху, па якім мы потым доўга крочым, перш чым дасягнем фінішнай лініі. Дом пачынаецца з першай цагліны, закладзенай у фундамент. Любоў пачынаецца з першага позірку або пацалунка. Жыццё пачынаецца з першага крыку дзіцяці.

Што выгадна адрознівае першы этап ад усіх наступных? Па-першае, запас сіл: ён велізарны. Куля, якая вылецела са ствала, мае найбольшую хуткасць на пачатку палёту. Бада, што падае з гары, валодае максімальнай патэнцыяльнай энергіяй на самай вяршыні, у пачатку падзення. Ва ўсім, што праяўляецца само або што распачынаем мы, закладзены магутны станоўчы зарад энергіі. У гэты час вы адчуваеце ў сабе сілу, і яна спараджае ў вас адчуванне вялікіх магчымасцей. Па-другое, згадайце свой стан, калі вы распачынаеце штосьці па ўласнай ахвоце, па асабістай ініцыятыве. Гэта — радасць ад прадчування выніку. Яна падобна на радасць дзіцяці, якое прачнулася і ўгледзела сваю маму.

Аднак існуюць і непрыемныя моманты гэтага "нулявога" цыкла, без якога, папраўдзе, нічога не створыш і які нікому не відзён — як сваі, убітыя ў зямлю, каб стаць апорай новай будыніны. З аднаго боку, ёсць унутранае прадчуванне, што ты здольны нешта здзейсніць, чагосьці дасягнуць, штосьці рэалізаваць, з другога — няма ніякіх падстаў спадзявацца, што жаданае абавязкова збудзецца. У такі перыяд цяжка мець маральную, а тым больш матэрыяльную устойлівасць, практычна немагчыма разлічваць на падтрымку збоку, даводзіцца самому адваёўваць месца пад сонцам.

Яркім прыкладам можа служыць з'яўленне на міжнароднай арэне новай дзяржавы — Рэспублікі Беларусь, са сваёй новай праграмай, новымі прынцыпамі, новай знешняй і ўнутранай палітыкай. І ўсе мы сталі сведкамі таго, якіх намаганняў каштавала прадстаўнікам улады, каб іх адстаяць перад сваімі грамадзянамі і ўсёй сусветнай грамадскасцю.

Стан першапраходца вядомы ўсім, хто распачынаў што-небудзь у сваім жыцці. Праўда, далёка не кожны гатовы да яго і тым больш схільны. Мы ад нараджэння, па самой сваёй сутнасці адрозніваемся рознымі здольнасцямі. У кожнага свая манера жыць і дзейнічаць. Хтосьці мае звычку выяўляцца рашуча, настойліва. Іншыя выбіраюць тактыку цярпення, пакорлівасці і таму прымаюць і ашчадна захоўваюць усё, што дае ім лёс. Трэція ўвесь час займаюцца самаедствам, выкарчоўваннем сваіх недахопаў і хібаў, ды, змяняючы сябе, мяняюць і сваё жыццё. Овены, безумоўна, належаць да першай катэгорыі людзей. Толькі ім па сіле брацца за справу, у поспех якой сёння ніхто не верыць. І адбываецца так не з-за іх асаблівай прадбачлівасці, а толькі таму, што ім проста падабаецца дзейнічаць.

Людзі-Овены не маюць амплуа. Овен-акцёр возьмецца за любую ролю — адно б удзельнічаць у спектаклі. Овен-пісьменнік будзе спрабаваць сябе ў любым жанры: галоўнае — пісаць. Овен-журналіст "дастане" прадмет свайго зацікаўлення з-пад зямлі, ілбом праб'е ўсе перашкоды, каб узяць інтэрв'ю. І ў гэтым іх унікальнасць і вялікая заслуга. Толькі яны, гэтыя "дзеці Задыяка", гатовы брацца за любую справу, працаваць на самых нявыгадных умовах. Толькі ім, такім шчырым і непаслухмяным, дадзена адрынуць асабісты інтарэс. Не мець амплуа і ёсць іх асноўнае амплуа, адно ў такім выпадку яны выконваюць сваё прызначэнне.

На першым этапе цалкам адсутнічае кампенсацыя за ўкладзеныя высілкі: яе мы атрымліваем толькі за канкрэтны вынік. Гэты бар'ер далёка не ўсе здольны пераадолець. Людзі не вытрымліваюць першых цяжкасцей і кідаюць пачатую справу. Колькі таленавітых людзей у розных галінах і сферах жыццядзейнасці так нічога і не дабіліся толькі таму, што ім не хапіла цярпення дачакацца першых парасткаў удачы. Між тым як уладальнікі куды больш сціплых здольнасцей змаглі дасягнуць пастаўленай мэты, бо праявілі настойлівасць.

Тыя, каму выпала стаць на шлях Овена, становяцца актыўнымі і валявымі, рашуча бяруцца за любую справу, але не заўсёды ўмеюць даводзіць яе да канца.

Як жа такіх людзей успрымае іх атачэнне?

Звычайна — напружана-насцярожана. Овены занадта адкрыта навязваюць акаляючым свой пункт гледжання, што выклікае такое ж адкрытае супрацьстаянне і непрыняцце з боку партнёраў, сяброў, блізкіх і родных. З імі цяжка сябраваць, іх цяжка любіць. Напорыстая эгацэнтрычнасць Овена аўтаматычна стварае вакол варожую атмасферу.

*"Мой сын,* — расказвае маці 9-гадовага хлопчыка, *— хінецца да іншых дзяцей, але пры кантакце праяўляе сябе рэзка, настойвае на сваім, імкнецца ўсімі кіраваць. Аднак далёка не ўсе дзеці дазваляюць яму гэта рабіць. Тады сын пачынае крычаць, плакаць, уцякае ад іх. Пройдзе колькі часу, і ўсё паўтараецца спачатку".*

Овены вельмі пакутуюць з-за гэтага, перажываюць, а самае галоўнае — абсалютна не разумеюць, чаму ўсё так адбываецца. Хто вінаваты ў іхніх сварках, чаму яны пастаянна трапляюць у канфліктныя сітуацыі, чаму столькі перашкод узнікае менавіта на іх шляху?

*"Я даўно стамілася ад праблем.* (Дзяўчыне 18 год.) *Мне ўвесь час даводзіцца пераадольваць нейкія бар'еры. Нішто ў жыцці не даецца лёгка. За ўсё патрэбна змагацца. Я хачу ведаць, чаму так адбываецца і як гэта выправіць".*

У многіх прадстаўнікоў гэтага знака самай цяжкай сферай выпрабаванняў і пакаранняў становіцца сям'я і партнёрскія адносіны ў шлюбе.

*"У маёй дачкі (ёй 32 гады) добрая прафесія, яна сама ў стане забяспечыць сябе ўсім неабходным, але вось ужо трэці раз спрабуе звязаць сваё жыццё з мужчынам, і ёй зноў не пашанцавала. Яна вельмі стараецца, але не атрымлівае ў адказ ні кахання, ні нават павагі".*

Прычыны нязменных сварак і канфліктаў — у крайнім суб'ектывізме Овенаў і іх абсалютным няўменні зірнуць на сітуацыю вачамі іншага чалавека.

*Жанчына (ёй 40 год) за 5 год працы памяняла звыш дзесятка розных устаноў і фірмаў. Кожны раз яна пакідала сваіх чарговых партнёраў цалкам пераканаfamaная ў сваёй праваце — па-першае, і без аніякага шкадавання — па-другое. Пакуль, нарэшце, не сустрэла на жыццёвым шляху такіх людзей, якія здолелі ёй паказаць, чаго яна вартая сама як партнёр, і адмовіліся ад супрацоўніцтва з ёю.*

Акаляючыя могуць зусім не аказваць уплыву на Овенаў, бо тыя з вялікай неахвотай успрымаюць чыесьці парады.

*"Мая дачка (ёй 17 год) — надзвычай высакамерная і ганарлівая. Упэўнена, што ёй цяжка будзе ў жыцці, бо ніхто з ёй не зможа ўжыцца. Я ўсяляк стараюся ёй дапамагчы, падказаць, як правільна паводзіць сябе з людзьмі. Але яна катэгарычна пратэстуе. Мы пастаянна сварымся. Я адчуваю сябе самым заклятым ворагам уласнай дачкі".*

Але яшчэ неспрыяльней складваецца жыццё ў тых, хто, з аднаго боку, імкнецца да поўнай незалежнасці, а з другога — марыць пра "спіну", за якую можна было б схавацца.

*Адзінокая жанчына 42-х год усё жыццё ходзіць як па зачараваным крузе і не дазваляе сабе дапамагчы. ("Я нікому не жадаю быць абавязанай!"), але і сама не ў стане пражыць адна з дзіцем, вытрымаць усе жыццёвыя выпрабаванні. ("У мяне ўжо няма ні сілы, ні здароўя".)*

Падчас бывае так: чалавек, які толькі пачынае напрацоўваць вопыт, хоча мець такі самы вынік, як і сталыя людзі. А калі ў яго нічога не атрымліваецца, то знаходзіць прычыну сваіх няўдач, напрыклад, у дзяржаве, дзе ён нарадзіўся і вырас.

*"Я ўжо 20 год жыву за мяжой.* (Жанчыне 42 гады.) *Калі я ад'язджала, то мела шмат спадзяванняў. Мне здавалася, што я стаю на парозе незвычайнага жыцця. Але вось мінула столькі год, а я дасюль "не знайшла сябе" і там".*

Многія так і прайшлі свой нялёгкі шлях воіна-першапраходца, нічога не нажыўшы, нічога не пакінуўшы пасля сябе.

Давайце цяпер паспрабуем падсумаваць усё сказанае.

1. Сваю асобу Овен фарміруе за кошт уласных намаганняў. Гэта, здаецца, галоўная і падчас адзіная яго вартасць.

2. У яго моцнае падсвядомае імкненне да гармоніі, прыгажосці, любові, матэрыяльнай устойлівасці, але ён яшчэ не ўмее ўсяго гэтага дасягнуць.

3. Яму цяжка ў стасунках з іншымі людзьмі з-за несупадзення поглядаў, навязвання сваёй пазіцыі.

4. Яго адрознівае празмерная гарачнасць у выяўленні пачуццяў, агрэсіўнасць у спробе авалодаць прадметам свайго захаплення.

5. Ён нікому не падпарадкоўваецца, ніхто не з'яўляецца для яго аўтарытэтам.

6. Яго хваробы звязаны альбо з празмернай напорыстасцю, упартасцю (пашкоджанні галавы), альбо з няведаннем ці непрыняццем усеагульнага закона жыцця (праблемы з пазваночнікам, хваробы вачэй).

7. Партнёрскія і шлюбныя рознагалоссі ўзнікаюць з-за няўмення сфармуляваць адзіны закон для дваіх.

8. Празмерны суб'ектывізм вядзе да супрацьпастаўлення сваіх прынцыпаў тым правілам і законам, якія сфармуляваны і прыняты ў грамадстве. Овены схільны да проціпраўных учынкаў, часцей становяцца на бок апазіцыі існуючаму рэжыму.

9. У Овенаў абсалютна адсутнічае аб'ектыўная самаацэнка. Да самааналізу іх "пасоўвае" мноства перашкод, цяжкасцей, страт, няўдач, якія яны сустракаюць на сваім шляху і ад якіх з цягам часу пачынаюць стамляцца альбо хварэць.

У чым жа містычны сэнс гэтага першага знака ў Задыякальным крузе?

Гэта тыя дзверы, праз якія адбываецца "выпадзенне" часткі (чалавека) з адзінага цэлага (усяго чалавецтва) дзеля таго, каб заявіць пра сябе як пра асобу з усёй моцай і рашучасцю. Тут максімальна праяўляецца чалавечае самавольства; яно дапамагае дасягаць асабістага, але перашкаджае чуць волю Тварца. Тут прысутнічае тая чысціня, якая яшчэ не праверана на трываласць часам. І менавіта тут нараджаюцца ўсе парокі самасці і эгаізму, таму што акцэнт пераносіцца на сябе. Тут закладваюцца першапрычыны ўсіх будучых фізічных хвароб, бо яны карэняцца ў зыходнай духоўнай недасканаласці чалавечай асобы. Тут яшчэ невядомыя законы, згодна якім павінны ладзіцца сямейныя, сяброўскія, партнёрскія, шлюбныя, сацыяльныя адносіны. Тут усё толькі пачынаецца. І таму наперадзе яшчэ доўгі шлях, ідучы па якім чалавек-Овен будзе фарміраваць сваю непаўторную індывідуальнасць.

**Вольга ІБРАГІМАВА**

Ілля ШАХРАЙ

# Вясновыя праплешынкі

## АБ'ЯВА

Зуб мудрасці, які выпаў у "амапаўца" Васі Рэкіцёркіна, — лічыць несапраўдным.

## ПАВЕДАМЛЕННЕ

Па-ранейшаму рукапісы не гараць і рэдакцыямі не вяртаюцца.

## ТАСТАМЕНТ

Прашу палічыць дзень нараджэння і дзень скананя за адзін дзень.

## АЎТАРСКІ РЭКЕТ

Сто тысяч даляраў атрымаў дзіцячы фонд сталіцы Беларусі ад расійскага палітычнага дзеяча Сяргея Шахрая. Напярэдадні яму быў дасланы ліст:

"Калі Вы не пакладзяце пад левы чаравік помніка Леніну на плошчы Незалежнасці 100000 баксаў, то я паведамлю Вашым выбаршчыкам пераклад слова "шахрай" з беларускай мовы на расійскую — мелкий жулик, нищий". З павагай Ілля Шахрай.

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

●

Міфы зноў патрэбны сталі, трэба ж нам у нешта верыць. Для каго кумірам Сталін, для каго жывы Машэраў. Зноў старанна Бога молім, аж да сэрца замірання. Нельга ж так — без "хлеба-солі" нельга ж так — без "ускладання". Прыйдзе новы старшыня — будзе новая гульня, а пакуль і не спрабуйце нам пра нешта гаварыць - хочам як прывыклі жыць.

●

Патрапіць у чужы свет праз нейкія дзверы? А нашто? Выключаеш тэлевізар і пераконваешся, што глядзеў свой, а слухаў чужы — у суседняй кватэры (паводле Л. Левінсона, ЗША).


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

Галоўны рэдактар
Уладзімір НЯКЛЯЕЎ





АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фота-карэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2366-071





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4551
Нумар падпісаны ў друк 26.3.1998 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 1656/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12